# РУНЬ

газэта беларусаў Літвы

9 сакавіка 2000 №30 кошт 1 літ




*ЮНЭСКА імкнецца спрыяць прызнаньню культурнай самабытнасьці ўсіх нацыянальнасьцяў і ўсіх абшчынаў, садзейнічаць разьвіцьцю сувязяў паміж культурамі й пашырэньню дыялёга паміж цывілізацыямі. Для ЮНЭСКА не йснуе такога паняцьця, як "другарадная культура". Незалежна ад свайго палітычнага й эканамічнага патэнцыялу або колькасьці кожны народ мае поўнае права змагацца з усялякага гатунку этнічнай ці лінгвістычнай дыскрымінацыі, дамагацца прызнаньня й павагі сваіх уласных каштоўнасьцяў. Немагчыма ўсталяваць герархіі паміж культурамі большасьці й меншасьці, бо нават самая сьціплая на першы погляд і малавядомая культура можа аказацца захавальніцай каштоўнасьцяў, каторыя маюць унівэрсальны характар...*

"Курьер ЮНЕСКО", лістапад 1984 г.

## Трывога за Беларусь

Становішча ў Беларусі выклікае ўсё большую заклапочанасьць паза ейнымі межамі. Чым далей, тым больш міжнародная супольнасьць разумее, што йснаваньне аўтарытарнага рэжыму ў Эўропе пагаршае агульную атмасфэру гэтае часткі сьвету, Беларусь становіцца цяжкім баластам для краінаў, каторыя йдуць па дэмакратычным шляху.

Само сабой зразумела, што найбольш беларускімі справамі заклапочаныя ейныя бліжэйшыя суседзі. Таму 12-13 лютага ў Вільні зь ініцыятывы Парляманцкай групы Сойму Літоўскай Рэспублікі па сувязях зь Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь 13-га скліканьня адбылася міжнародная канфэрэнцыя „Правы чалавека й дэмакратыя ў Рэспубліцы Беларусь". На канфэрэнцыі присутнічалі й выступалі з дакладамі прадстаўнікі Сойму Літвы Саўлюс Печалюнас, Эмануіліс Зінгерыс, а напачатку ейных удзельнікаў вітаў Старшыня Сойму Вітаўтас Ландзбергіс. Беларусь была прадстаўленая вялікай групай дэпутатаў ВС 13-га скліканьня на чале зь Сямёнам Шарэцкім. Сваімі поглядамі на беларускія справы дзяліліся член Парляманту Даніі Гіттэ Мілемунд Бэх, прэзыдэнт асацыяцыі „Атлянтыцкі клюб" Яраслаў Гузы, старшыня Хэльсінскага камітэту Даніі Рудольф Торнінг-Пэтэрсэн ды інш. Спэцыяльна на канфэрэнцыю прыехаў амбасадар ЗША ў Беларусі Даніэл Спэкхард, які вядомы сваёй прынцыповай пазыцыяй у адносінах да рэжыму Лукашэнкі. Ён таксама выступіў з досыць разгорнутым паведамленьнем.

Але, вядома, найбольшую зацікаўленасьць выклікалі паведамленьні „зь першых рук", прадстаўнікоў Беларусі: Мечыслава Грыба, Сямёна Шарэцкага, Уладзіміра Нісьцюка ды інш. Была запрошаная на канфэрэнцыю й група тутэйшых беларусаў, сяброў ТБК, на чале з Хведарам Нюнькам.

Не засталіся абыякавымі да правядзеньня канфэрэнцыі і ўлады Беларусі. Каб хоць як-небудзь папсаваць настрой удзельнікам, пад надуманай прычынай ня быў выпушчаны зь Беларусі ў Вільню вядомы дзеяч апазыцыі, дэпутат ВС 13-га скліканьня Анатоль Лябедзька.

Удзельнікі канфэрэнцыі, разумеючы, што стану беларускай дэмакратыі ды правам чалавека ў Беларусі трэба даваць сталую ўвагу, пастанавілі ўтварыць стала дзеючы ворган — „Міжнародны саюз парляманцкай салідарнасьці па падтрымцы дэмакратыі ў Рэспубліцы Беларусь", куды ўвайшлі прадстаўнікі парляментаў Літвы, Даніі, Беларусі, Польшчы. Як было заяўлена, „мэтай міжнароднага саюзу зьяўляецца аб'яднаньне намаганьняў парлямантаў і парлямантарыяў сьвету ў падтрымцы дэмакратычных сілаў у Рэспубліцы Беларусь, садзейнічаньне ў зьдзяйсьненьні ў Рэспубліцы Беларусь эканамічных рынкавых рэформаў, пабудова грамадзянскага грамадзтва й праўнай дзяржавы, забясьпечаньне поўнай рэалізацыі правоў і свабодаў грамадзянаў на прынцыпах Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека". Узначаліў Саюз Старшыня парляманцкай групы Сойму ЛР па сувязях з ВС РБ 13-скліканьня сп. Саўлюс Печалюнас.

## "Казюк" — сьвята народнага промыслу

***У архіве "Руні" маецца вялікі артыкул вядомага беларускага этнографа Марыяна Пецюкевіча "Казюк" — сьвята народнага промыслу", дзе вельмі падрабязна распавядаецца пра паходжаньне й гісторыю славутага віленскага Казюковага кірмаша, які штогод ладзіцца ў нас, у Вільні, у першыя выхадныя дні сакавіка ў гонар Сьв. Казімера. Мяркуем, што нашыя чытачы зь цікавасьцю прачытаюць фрагмэнты з згаданага артыкулу:***

"Літва слаўная вялікімі людзьмі і шырока ведамымі ў гісторыі чалавецтва. Наша зямля зрадзіла іх многа, а пушчы чароўным сваім шумам і напевам узбагачывалі іхнія глыбокія душы, а натура краю гартавала іх фізічна. Вось сярод гэтых слаўных адзінак нашага народу адно з найбольш пачэсных мейсцаў займае ведамы ўсяму сьвету і Небу — гэта Сьв. Казімер Каралевіч. Прыйшоў ён на сьвет у сям'і караля Казімера Ягайлавіча. Постаць Сьв. Казімера можна параўнаць з мэтэорам, які ярка засьвяціў над зямлёй Вялікага Княства Літоўскага... і хутка згас, але сьвятло яго цудоўнае ў народзе не загасла, а штораз больш пачало ірдзець. У хуткім часе пасьля сьмерці Каралевіча пачаў выкрысталізавацца глыбокі культ рэлігійны каля Яго асобы ў Вільні. І ня дзіва, бо Сьв. Казімер быў зусім іншым чалавекам, чым папярэднія валадары краю: Бог Яго паслаў Літве дзеля вялікіх ідэяў, дзеля адраджэньня духовага народу. Ягонае жыцьцё — гэта была практычная лекцыя, як трэба жыць, каб астацца ў блізкім кантакце з Тварцом... Гэтая вялікая постаць Вільні ў хуткім часе настолькі пашырылася ў краю, што раптоўна прычыніліся да зьмяншэньня культу Сьв. Станіслава Сьцепаноўскага — паляка. Культ рэлігійны па сьмерці Казімера Каралевічы выйшаў далёка за межы Вялікага Княства Літоўскага. Хутка ўзрастаючы, культ рэлігійны прычыніўся да важнага факту kананізацыі, а іменна да таго, што Сьвятая Сталіца Апостальская ў 1606 годзе залічыла Каралевіча ў раду сьвятых каталіцкіх і вызначыла дзень сьвяткаваньня на чацьвертае сакавіка.

...Вялікія ўрачыстасьці рэлігійныя ў XVII ст. на чэсьць Сьв. Казімера давялі культ сьвятога да найвышэйшай ступені. Чэсьць і слава сьвятога разплыліся ня толькі ў сваеі дзяржаве, але па ўсім каталіцкім сьвеце. Вялікае рэлігійнае мастацтва ў XV ст. у Эўропе памёрла, а ў Вільні ў зьвязку з культам Сьв. Казімера пачынае бурна разцьвітаць барок. У значнай меры прычыняецца да разьвіцьця гэтай архітэктуры слаўны патрыёт Вялікага Кн. Літоўскага канцлер Леў Сапега і інш. магнаты. У гэтую пару паўстае касьцёл Сьв. Казі-мера, Сьв. Кацярыны, пры Базы-лянскім манастыры царква Сьв. Тройцы, Сьвята-Духаўскі манастыр, касьцёл Сьв. Пятра і Паўла і г. д.

Праця на старонцы 2

## Мой погляд на КУРАПАТЫ



Здымак Генадзя Жынкова

**Выйшаў з друку чарговы... том новай беларускай энцыклапэдыі. Літара "К" — "Курапаты"... Большай ганьбы, здаецца, і не прыдумаеш. Нават першабытныя людзі з большай пашанай хавалі сваіх супляменьнікаў. І, хочаш — ня хочаш, гэтая ганьба кладзецца на кожнага з нас. Кожны цяпер можа кінуць абразу: "Гэтыя беларусы — проста быдла! Ужо не гаворачы, што помніка не паставілі, — вунь як пішуць пра сваіх продкаў!"**

**Мы — ня быдла. Спытайся ў кожнага з нас — пакрыўдзіцца, скажа: я — чалавек! Але словы мусяць быць доказаныя. За словамі мусіць ісьці справа.**

**Чытаем: "Ёсьць розныя версіі адносна таго, хто там пахаваны... Рассьледаванне працягваецца". Такім чынам выказаны погляд сучасных беларускіх уладаў, каторыя імкнуцца прыхаваць злачынствы ўлады савецкай. Саўдзельнікі ў злачынстве...**

**І гэта пасьля таго, як папрацавалі ўжо тры камісіі! Пасьля таго, як жывыя сьведкі ды археалягічныя раскопкі неаспрэчна даказалі, што з 37-га па 41-шы тут "энкавэдэшнікі" зьнішчалі сваіх ахвяраў.**

**Я даўно перахварэў ідэяй перамагчы ў сьвеце зло. Спрабую ў сабе, вакол сябе гэтага зла трохі зьменшыць. Таму, наракаючы на нашую беларускую ганьбу — бяспамяцтва й бяздзейнасьць —я найперш думаю пра сябе: што я асабіста зрабіў, каб гэтай ганьбы зьменшылася? Я асабіста. Ня ўлады, не народны фронт, ня хтось іншы, — я.**

**Я замоўлю, каб сторож зрабіў крыж, просты драўляны крыж. Я веру — гэты знак аберагае ад зла. Гэты крыж я ўзьнясу на Курапацкую гару. Гэта будзе маё пакаяньне: у свойчас і я-ж быў у піянэрах і камсамольцах.**

**Я так думаю, што дзеля гэтага ня трэба ніякіх загадаў, дазволаў ад уладаў. Ня трэба ніякіх "масавых апазыцыйных акцыяў". Ня трэба вялікіх грошай, высілкаў. Я чакаю толькі вясны — каб адтаяла зямля, і я мог устанавіць у жоўты пясок на Курапатах свой крыж. І яшчэ я чакаю, што можа нехта іншы зробіць гэтак сама, як я...**

Сяржук Вітушка

**Марыя Матусевіч наш кандыдат у дэпутаты Віленскага гарадзкога самакіраваньня**



М. Матусевіч жыве й працуе ў Вільні. Беларуска, 1944 г. н. Настаўніца пачатковых клясаў СШ N 32. Мае вялікі стаж у грамадзкай працы на карысьць беларускага насельніцтва Літвы. Яна — актывістка адраджэньня беларускай мовы й культуры. Замужняя. Мае дачку і ўнука.

Вылучаная ад ТБМ імя Ф. Скарыны Віленскага Краю. Паколькі ў Літве пакуль што няма сваёй палітычнай партыі, дык Матусевіч Марыя будзе праходзіць па сьпісах Акцыі выборчай палякаў Літвы пад N 7. Зычым посьпехаў нашаму кандыдату й заклікаем выбаршчыкаў-беларусаў прагаласаваць на выбарах 18 сакавіка за Матусевіч Марыю!

## Справаздаўча-перавыбарчы зьезд ЗБГА

адбыўся 13 лютага. На пасаду прэзыдэнта Згуртаваньня абраны сп. Лявон Мурашка, ранейшы прэзыдэнт ЗБГА. Абраныя таксама Рада, Рэвізійная камісія, Управа. Ва Ўправу увайшлі: Р. Вайніцкі, Д. Базар, Т. Блажкевіч, А. Тарасэвіч. У Згуртаваньне цяпер уваходзіць 10 суполак і 3 філіі. На зьезьдзе вялася гаворка пра лёс Беларускае школы імя Ф. Скарыны, пра далейшае аб'яднаньне беларускіх суполак Літвы вакол ЗБГА, пра стварэньне музэю Я. Коласа й аднаўленьне музэю імя І. Луцкевіча, пра маладзёвую бел. арганізацыю, пра асьветна-культурны цэнтар. Бліжэйшае мерапрыемства ЗБГА —

**Сьвяткаваньне Дня Волі — адбудзецца *26 сакавіка*, аб *15.00, у Доме настаўніка* па вул. Віленскай. Пасьля ўрачыстай акадэміі — канцэрт мастацкіх гуртоў беларусаў Літвы.**

**Сяржук Вітушка**

## Справаздаўча-перавыбарчы сход ТБК

адбыўся 19 лютага. На пасаду старшыні Таварыства абраны сп. Хведар Нюнька, ранейшы старшыня ТБК. Абраныя таксама Рада й Рэвізійная камісія. У Раду ўвайшлі: М. Іголка, Л. Мілаш, А. Старавойтаў, А. Трусаў, С. Карабач, П. Саўчанка, В. Саковіч, В. Місюк. У сваім справаздаўчым дакладзе сп. Хведар Нюнька пералічыў дасягненьні Таварыства за апошнія тры гады дзейнасьці, а таксама закрануў сёньняшняе трывожнае сацыяльна-палітычнае становішча ў Беларусі. "Пакуль над нашай Бацькаўшчынай вісіць пагроза страты незалежнасьці, мы, зьяўляючыся культурна-асьветнай арганізацыяй, ня можам не займацца палітыкай," — такі лейтматыў гучаў праз усё выступленьне дакладчыка.

**А. М.**

## У дзень Сьв. Франьцішка

2 красавіка, у нядзелю, аб 10.30 у касьцёле Сьв. Барталамэя адбудзецца набажэнства за Франьцішка Скарыну, Франьцішка Багушэвіча (якім сёлета спаўняецца адпаведна 510 і 160 гадоў з дня нараджэньня), Франьцішка Аляхновіча ды Франьцішка Грышкевіча. Таксама і ў Рукойнах Віленскага раёну адбудзецца імша за Ф. Багушэвіча — у касьцёле, дзе яго хрысьцілі. Хачу дадаць, што ў Лаварышках адна з вуліцаў ужо носіць імя Ф. Скарыны, а ў Рукойнах — Ф. Багушэвіча. І ў гэтым нямалая заслуга сяброў ТБМ Віленскага краю. Цяпер мы робім захады дзеля ўстанаўленьня мэмарыяльнай табліцы ў гонар Багушэвіча на панадворку касьцёла ў Рукойнах.

**Юры Гіль**

## На запытаньні чытачоў

газэты "Рунь" і "Наша Слова", дзе былі надрукаваныя мае матар'ялы аб бандыцкім нападзе на гісторыка-краязнаўчы музэй "Засьцянковая хатка" Докшыцкага раёну, паведамляю:

— насуперак таму, што мясцовыя докшыцкія ўлады імкнуцца "замяць" гэтую справу ды выгарадзіць бандытаў, Віцебскі абласны суд адмяніў рашэньне Докшыцкага раённага суда й накіраваў справу на перагляд, што паставіла старшыню Докшыцкага суда Аршынаву ў тупіковае становішча;

— супраць вінаватых у злачынстве у Віцебскім судзе разглядаецца адміністрацыйная справа, у тым ліку іск на суму 7 млрд. 7 млн. 7 тыс. 7 бел. руб. за прычыненьне матар'яльнай і маральнай шкоды з боку Грына, Васюкевіча, Кучыца й Аршынавай;

— я дамагаюся ўзбуджэньня крымінальнай справы ў адносінах да ўдзельнікаў нападу на "Засьцянковую хатку".

**Юры Гіль**

## Літоўскае выбарчае заканадаўства

падыйшло-б для Беларусі на 98 адсотак, — так сказаў для нашай газэты сп. Вячаслаў Сіўчык, намесьнік старшыні БНФ. Ён быў удзельнікам літоўска-беларускага сэмінару, прысьвечанага муніцыпальным выбарам. Далей сп. Сіўчык патлумачыў сваю высокую ацэнку літоўскага выбарчага заканадаўства: "Дадзены выбарчы кодэкс дазваляе на працягу некалькіх гадоў стварыць, структураваць грамадзкую супольнасьць у краіне. Дзякуючы гэтым законам фармуюцца 5-6 моцных палітычных партыяў". Гэты сэмінар адбыўся 11 лютага ў Сойме ЛР, а ладзілі яго Літоўскі цэнтар журналістыкі, Міністэрства замежных справаў, Цэнтральная выбарчая камісія. Зь беларускага боку прысутнічалі прадстаўнікі палітычных партыяў і журналісты.

**Сяржук Вітушка**

# "Казюк" — сьвята народнага промыслу

*Працяг са старонкі 1*

Наколькі разьвіўся рэлігійны культ Сьв. Казімера сьведчыць і такая зацемка гістарычная, што народ верны саматужна нават у дзень сьвята — 4 сакавіка 1604 г. — хапіўся да будовы сьвятыні на чэсьць Сьв. Казімера: "На рынку віленскім каля ратушы ў 1604 г. паложаны аграмадных разьмераў вуглавы камень, які знойдзены на Антокалі. А ў перанясеньні гэтага каменя прымала ўдзел 700 чалавек: мяшчан, сялян і дастойнікаў. Камень гэты спэцыяльна абгладжаны, абмаляваны медзяй, на якім зроблены лацінскі надпіс..."

...А як толькі Сталіца Апостальская вызначыла дзень сьвята, пілігрымы пачалі масава зьяўляцца і сходзіцца з цэлага краю. Гэты дзень з кожным годам пачаў набіраць розгаласу ўсё больш і больш. Пачалі зьяжджацца на фэст ня толькі малельнікі, але, дзякуючы вялікаму зграмаджаньню людзей, пачынаецца хутка разьвівацца гандаль і абмен тавараў. Творыцца ў гэты дзень надзвычайна вялікі кірмаш ускраёвага значэньня з усімі сваімі асаблівасьцямі. Прывозілі на гэтыя кірмашы свае тавары ня толькі мясцовыя жыхары, але зьяжджаліся на гэты кірмаш і гандляры з чужых джяржаў.

Вось-жа дзень Сьв. Казімера стаўся ня толькі вялікай рэлігійнай дэманстрацыяй, але таксама вялікім краёвым кірмашом. І трэба тут адразу падчыркнуць, што кірмаш "Казюковы" — гэта ў пераважным сваім зьмесьце быў даўней і ёсьць цяпер сьвятам-кірмашом сялян, сялянскага промыслу.

...Паўстае пытаньне, якое рамяство магло разьвівацца ў такой краіне лясоў і пушчаў, як Віленшчызна? Рэч зусім ясная, што разьвівалася дзеравянная вытворчасьць... Вось гэты народны промысел... і складаў іменна сапраўдны зьмест Казюковага кірмашу. Безумоўна, шмат тут ёсьць прадметаў і з іншых галін народнага промыслу, але ўсёж-такі дамінуе дзеравянная вытворчасьць. І гэта зусім зразумела, бо сяляне ў працягу доўгіх зімовых вечароў паволі прыгатаўляюць у вялікай колькасьці розныя дзеравянныя вырабы: начоўкі, гаспадарскія пасуды, лыжкі, дугі, сані, колы і г. д...

І яшчэ вельмі важны з пункту гледжаньня этнаграфічнага і гаспадарчага трэба адмеціць мамэнт, што кожную ваколіцу, ці павет характарызуе спэцыяльная вытворчасьць. Напрыклад, Сьвяньцяншчына прывозіць на Казюковыя і іншыя Віленскія кірмашы пераважна дзеравянныя вырабы, Ашмяншчына і Ковеншчына — ткацкія, Лідчына — плецянкарства і г. д. Смаргоні хіба ведамыя цэламу сьвету сваімі абаранкамі, ну, а Вільня — сэрцамі ды іншымі прадуктамі, ня маючымі ніякага значэньня этнаграфічнага.

..."Казюк", фэст і кірмаш, належыць да раду чатырох вялікіх віленскіх, якія ў парадку храналягічным пералічым, а іменна: Сьв. Казімер, Сьв. Юры, Сьв. Ян і Сьв. Пётра і Павал. Найбольшым сьвятам і кірмашом, рэч ясная, зьяўляецца "Казюк". Розьніцца "Казюк" ад іншых фэстаў і кірмашоў і тым яшчэ, што з гэтым сьвятам ня лучацца ніякія старадаўнія народныя звычаі і няма фальклёру, а гэта таму, што "Казюк" зьяўляецца новым, пазьнейшым сьвятам, якое не наслаілася на сьвята паганскае, як гэта ёсьць, напрыклад, зь Юр'ем, які замяніў паганскага бога вясны і апекуна быдла...



Кірмашы Казюковыя спачатку адбываліся на пляцу ратушавым перад сягоняшнім касьцёлам Сьв. Казімера, пасьля на пляцу Катэдральным і ў апошнія гады на пляцу Лукіскім. Арганізаваньне гэтых кірмашоў і іх папулярызацыя находзілася ў руках самога места, а перадусім — духавенства. У дні фэсту духавенства сабірала нямалыя сумы грошай, а таксама шмат ахвяраў у постаці прадуктаў. Гэтыя ахвяры ішлі на будовы сьвятыняў і на ўтрыманьне манастыроў. Места таксама мела вялікія карысьці матар'яльныя з кірмашоў. А дзеля гэтага як адны, так і другія дзейнікі стараліся як найбольш папулярызаваць гэтае сьвята-кірмаш. Адным словам, "Казюк", як сьвята каталіцкае, і Казюк, як кірмаш — гэта вялікае сьвята і вялікая дэманстрацыя народнага промыслу і дробнаместачковага рамяства. Тут абодва дзейнікі практыкуюцца і ўзаемна адзін другому памагаюць.

...Вось таму гэты дзень паўсюдна сьвяткуецца ў краі і сьвяткавацца будзе, хоць-бы гэтага касьцёл і не вымагаў.

1940 г".

# Пра новую тактыку БНФ

## распавядае намесьнік старшыні БНФ Вячаслаў Сіўчык



**— Спадар Вячаслаў, ты сёньня зьяўляесься адным з шасьці намесьнікаў новага старшыні БНФ, адказваеш, фактычна, за палітыку Фронту, выпрацоўваеш яе, займаесься ёю на практыцы... Што новага ў палітыцы БНФ пасьля нядаўняга "вялікага перадзелу"?**

— Пасьля таго, як, у досыць крытычнай сытуацыі, было абранае новае кіраўніцтва БНФ, стратэгія Фронту не зьмянілася. Асноўнае ў нашай стратэгіі тое, што мы выступаем за права нашага народу мець сваю дзяржаву праз дэмакратычны шлях разьвіцьця, праз рынкавыя рэформы й пад. Але адбыліся даволі істотныя зьмены ў тактыцы Фронту. 2000 і 2001 гг. для Беларусі будуць крытычныя, і бяз зьмены персанальнага кіраўніцтва БНФ новую палітыку ажыцьцяўляць было-б немагчыма. За намі захавалася большасьць структураў у раёнах, за намі пайшла большасьць актывістаў Фронту.

**— Што Фронт будзе рабіць у самы бліжэйшы час?**

— Мы выходзім на "Вясну-2000". Дзеля ціску на рэжым нам удалося скансалідаваць усе апазыцыйныя сілы. Бо сёньня вельмі небясьпечна пагаджацца з правіламі гульні, распрацаванай правячым рэжымам, які падштурхоўвае нас прыняць удзел у выбарах у г. зв. "Палату Прадстаўнікоў". Такі ўдзел можа пахаваць нашую незалежнасьць, парасткі нашае дэмакратыіі. Байкот-жа выбараў і ламаньне лукашэнкаўскага рэжыму магчымыя толькі пры кансалідацыі шырокіх апазыцыйных сілаў, хаця-б трох найбуйнейшых партыяў: БНФ, КХП (партыя Пазьняка) й АГП, а таксама, зразумела, пры падтрымцы "апальнага" ВС 13-га скліканьня. Акрамя таго мы ствараем структурныя сыстэмы, каторыя дазволяць нам паставіць пытаньне аб уладзе. (Так атрымалася, што, пачынаючы з 1995 г., сур'ёзна пытаньне аб уладзе ў нас ня ставілася). Дзеля гэтага мы маем сёньня добрыя стасункі й кантакты з усімі, бадай, асноўнымі палітычнымі суб'ектамі ў Беларусі, вельмі шмат увагі аддаем працы з прафсаюзамі, працуем, на колькі магчыма, з прэсай, каб прабіцца з нашымі праграмамі-думкамі да жыхароў Беларусі.

**— Дык у чым усё-ж іншасьць сёньняшняй тактыкі БНФ?**

— Мы адыйшліся ад вельмі простай схемы, што Фронт лепшы за усіх праз тое толькі, што ён ёсьць, што ён адзін зьяўляецца кансалідуючай сілай усіх нацыянальна-сьведамых элементаў грамадзтва. Мы працуем сёньня рэальна, самае галоўнае для нас вынік. Напрыклад, мы стварылі нацыянальны аргкамітэт дзеля правядзеньня акцыі 25 Сакавіка, у які ўвайшло больш за 150 вядомых бел. палітыкаў: кіраўнікі партыяў, прафсаюзаў, рэдактары незалежных газэтаў, проста вядомыя ў Беларусі асобы, — адным словам, гэта ўсё людзі дэмакратычных перакананьняў, хоць і не заўсёды нацыянальна скіраваныя ў сваіх поглядах. Гэта зьвязанае з тым, што сёньня зьнікла дастаткова моцная сацыяльна-электаральная база БНФ, а большасьць бел. апазыцыйных партыяў падзяляюць нашыя стратэгічныя палажэньні. Для таго, каб скінуць рэжым, захаваць незалежнасьць, патрэбнае вельмі шырокае аб'яднаньне.

**— А што пасьля?**

— Натуральна, нашыя падыходы ў будучым будуць адрозьнівацца ад падыходаў іншых палітычных суб'ектаў Беларусі, але сёньня галоўнае ёсьць уступленьне Беларусі ў эўрапэйскае дэмакратычнае поле, даць магчымасьць нашаму народу абіраць уладу, — і тут інтарэсы ўсіх нашых палітычных партыяў супадаюць, нават у камуністаў, як не парадаксальна...

**— У Расеі цяпер таксама рыхтуюцца да выбараў...**

— Прадбачыцца пагаршэньне сытуацыі ў Беларусі праз тое, што прэзыдэнтам Расеі напэўна стане Пуцін. Гэта азначае, што сярэдняе зьвяно ранейшага КДБ афіцыйна даможыцца ўлады ў Расеі. Таму прагназуецца ўзьнікненьне такой маскоўскай сыстэмы, якая ўзьнікла ў нас у 1996 годзе: з больш жорсткай выканаўчай уладай, непазьбежным уціскам прэсы, непазьбежным парушэньнем правоў чалавека. У такіх умовах вельмі небясьпечна рабіць выгляд, што ў Беларусі захоўваецца сытуацыя 1991 г., бо можа атрымацца так, што хаця ўвесь наш народ будзе супраць саюзу з Расеяй, нашая апазыцыйная палітычная эліта ня здолее абараніць незалежнасьць, прайграе самае галоўнае — беларускую пэрспэктыву. Таму тое, чым мы сёньня займаемся, гэта ёсьць рэальная палітычная барацьба ў рэальных беларускіх умовах. Сёньня ня час "какетнічаць" і ня час самарэклямы. Мы бачым, што пазытыўныя зьмены ў Беларусі магчымыя, і ўсё робім дзеля тых зьменаў. Сама сабой незалежнасьць нам не ўпадзе, як, дарэчы, і ў іншых краінах. Былі ахвяры, вялікая штодзённая праца дзеля таго, каб замяніць прамаскоўскія рэжымы. Я глыбока перакананы, што й беларускі народ справіцца з гэтай праблемай, бо сёньня, ужо ня першы раз у XX ст., стаіць пытаньне выжываньня нацыі. Я мяркую, што мы перажывем і цяперашні этап акупацыі...

**— Хто сёньня ў Беларусі рэальна падтрымлівае апазыцыю?**

— Існуе чатыры групы насельніцтва, якія аб'ектыўна зацікаўленыя ў нашай незалежнасьці й чый патэнцыял вельмі вялікі й дазваляе правесьці ўсе неабходныя пераўтварэньні ў справе пераходу ад дыктатуры да дэмакратыі. Па-першае, гэта прадпрымальнікі. Усе аналітыкі чамусьці недаацэньваюць колькасьць людзей, якія займаюцца ў нас г. зв. "дробным бізнэсам". Праз драконаўскія законы ў нас няма сёньня практычна моцных фірмаў, але каля 2 млн. нашых суайчыньнікаў мусяць займацца, каб выжыць, перапродажам тавараў. Гэта пераважна людзі, каторыя гандлююць на больш чым 400 бел. рынках, мусяць працаваць "чалнакамі", тыя-ж бабулі, што гандлююць цыгарэтамі. Яны, у прынцыпе, ёсьць тая сацыяльная катэгорыя энэргічных людзей, якая ў нармальных умовах зрабілася-б "сярэдняй клясай" — "станавым хрыбтом" беларускай джяржавы, на якім трымаецца стабільнасьць. (Напрыклад, шмат дробных прадпрымальнікаў у Польшчы, што гандлявалі на знакамітым Варшаўскім рынку, сёньня сталіся ўласьнікамі шматлікіх сярэдніх прадпрыемстваў). У нашых рынкавых гандляроў назіраюцца цяпер найбольш антыімпэрскія настроі. Усе сацыялягічныя апытаньні паказваюць, што менавіта гэтая сацыяльная група (на сваёй уласнай скуры "пакаштаваўшы панскай ласкі") праз свой уласны досьвед (не праз культуру, не праз мову!), праз кантакты з прадстаўнікамі іншых краінаў –адзіная, мусіць, група, якая здольная адстойваць свае інтарэсы.

Другая група насельніцтва — моладзь...

**— Ты адрываеш моладзь ад іхняй клясавай, сацыяльнай прыналежнасьці?**

— Так. Нашая моладзь сёньня шырокая сацыяльная група, што ўключае ў сябе навучэнцаў, старшаклясьнікаў, студэнтаў, маладых рабочых, прадпрымальнікаў, нават міліцыянэраў. Гэтая ўзроставая, я-б сказаў, група цікавая тым, што яна фармавалася, калі была сыстэма, адрозная ад сёньняшняй, большасьць зь іх атрымала веды й з гісторыі Беларусі...

**— Моладзь, якая выхоўвалася да 96-га?**

— Нават да 97 году. Ня трэба забываць, што не адразу ўдалося пануючаму рэжыму ўсё паламаць, у тым ліку і ў галіне бел. адукацыі. Тут дзейнічае момант інэрцыі. Вельмі дзіўна выглядала, напрыклад, калі амапаўцы з Пагоняй разганялі нашыя дэманстрацыі й затрымлівалі нас праз нашыя сьцягі з тымі самымі Пагонямі... Але, самае галоўнае, сацыялягічныя апытаньні паказваюць, што моладзь нашая сёньня арыентаваная на Эўропу. Не на Расею, не на Амэрыку, а, менавіта, на Эўропу... Трэцяя група — чынавецтва...

**— Чынавецтва?!**

— Так. За тыя часы, пакуль была незалежная дзяржава, дастаткова ўзьнікла ў гэтым асяродзьдзі людзей, каторыя разумеюць, што бел. дзяржава мусіць быць незалежнай...

**— Ты маеш на ўвазе сёньняшнія ўладныя структуры?**

— Менавіта. Справа ў тым, што яны сёньня складаюцца з двух вялікіх груповак. Я ўмоўна іх называю "акупантамі" і "калябарантамі". І абсалютна безпэрспэктыўна дамаўляцца з тымі людзьмі, у чые прафэсыйныя абавязкі ўваходзіць зьнішчэньне бел. нацыі — іхняя дзяржава "ад Брэста да Курылаў". Можна ўсё жыцьцё пакласьці на агітацыю Замяталіных, Лантыпавых, Ярмошыных, — і з гэтым памерці. (Тое, што не ўдалося іншым народам, ня ўдасца й нам). Аднак досыць вялікая групоўка ў чынавецтве людзей, каторыя нарадзіліся й выраслі на нашай зямлі — "тутэйшых". І нам трэба дакладна разумець, што ў нашай 10-мільённай краіне бракуе спэцыялістаў, асабліва спэцыялістаў, здольных разьбірацца ў канкрэтных пытаньнях эканомікі й, наогул, кіраваньня дзяржавай. Таму стаўленьне да "калябарантаў" мусіць быць стрыманае, паважлівае. Нашая задача й іх перацягнуць на свой бок. Трэба арыентавацца на тыя нацыянальныя кадры, каторыя ўжо падрыхтаваныя й спачуваюць нам у нашай барацьбе за незалежнасьць. Ня мусіць быць "паляваньня на ведзьмаў" дзеля самога паляваньня. А аб'ектыўна сёньня большая частка бел. чынавецтва стаіць на дзяржаўніцкіх пазыцыях. Яны, канечне, сёньня выконваюць і ажыцьцяўляюць усё, што загадвае рэжым, але-ж даходзіць да парадоксу. Напрыклад, я, пабываўшы ў адным зь менскіх раённых аддзяленьняў міліцыі, зразумеў, што абсалютная большасьць там (асабліва вышэйшыя чыны) не падтрымлівае Саюз Расеі зь Беларусьсю, — і гэта рэальнасьць!

**— Чаму?**

— Цяжка растлумачыць. Але, напрыклад, паводле сваіх прафэсійных абавязкаў чыноўнікі зь міліцыі цудоўна разумеюць, якія наступствы будуць пасьля інкарпарацыі Беларусі ў Расею. Ім тыя (магчліва, крывавыя) наступствы непатрэбныя...

Чацьвертая група, мусіць, самая галоўная — рабочыя. Самая дынамічная й моцная сіла, якой шалёна баіцца рэжым. Ён праводзіць досыць прафэсыйную палітыку, каб не дапускаць сацыяльных выбухаў з боку рабочых. Напрыклад, ёсьць "разьбежка" ў заробнай плаце паміж Менскам і іншымі рэгіёнамі, а таксама ў залежнасьці ад таго, наколькі арганізаваныя прафсаюзныя структуры на прадпрыемствах. Аб'ектыўна рабочыя выступаюць за незалежнасьць, калі мы ім дакладна тлумачым, што барацьба за незалежнасьць гэта ня толькі барацьба за мову, культуру й сымболіку (хоць гэта таксама надзвычай важна!), –а й за тое, каб бел. рабочы меў эўрапэйскі заробак, прыстойна жыў матар'яльна й маральна. Мы ўявлі сацыяльны блёк у змаганьне за незалежнасьць — і гэта таксама новае ў нашай тактыцы.

**— А як сяляне ды іншыя сацыяльныя групы?**

— Мы не недаацэньваем іншыя групы, але калі прааналізаваць, што адбывалася ў іншых краінах, дык робіцца зразумелым, што менавіта названыя чатыры групы адыгрывалі рашаючую ролю пры зьменах улады. Задача беларускіх палітыкаў аб'яднаць іхнюю волю да дэмакратычных зьменаў у грамадзтве. Толькі праз масавы ціск на рэжым мы можам арганізаваць прарыў...

**— Беларуская "аксамітная рэвалюцыя"?**

— "Вясна-2000" вельмі сур'ёзная вулічная кампанія. І ёсьць аб'ектыўная неабходнасьць ейнага правядзеньня, бо рэжым паказаў, што йсьці на перамовы не зьбіраецца, і яго трэба проста прымусіць, каб адбываліся зьмены ў краіне. Маска й сёньняшні наш рэжым лічацца толькі зь сілай. Таму, як і апазыцыям у іншых краінах, нам давядзецца праводзіць вулічныя мерапрыемствы. Вельмі добра, што ўпершыню за ўсе гады акцыі, каторыя будуць адбывацца ў межах цяперашняй вясновай кампаніі, узгодненыя паміж апазыцыйнымі сіламі. Такім чынам выключаецца пэўная канкурэнцыя, і ня важна, хто зьяўляецца заяўнікам кожнай акцыі. Вельмі важная тут акцыя 25 Сакавіка, бо Беларусь сёньня рэальна йсное ў маскоўскім інфармацыйным полі, і якраз у гэты дзень у Расеі забароненая агітацыя за кандыдатаў у прэзыдэнты (згодна закону аб выбарах). Гэты дзень будзе вольны для эфіру. Аднак і 15 сакавіка (у Дзень Канстытуцыі) будзе "Марш свабоды — 2" у абарону перамоўнага працэсу й незалежнасьці, 26 красавіка — "Чарнобыльскі шлях", 1 траўня — Дзень працы, 14 траўня — чарговая гадавіна ганебнага рэфэрэндуму.

***Гутарыў А. М.***

# Чачэнская старонка

**На ўжо згаданай міжнароднай канфэрэнцыі „Правы чалавека й дэмакратыі ў Рэспубліцы Беларусь" удзельнікам і гасьцям імпрэзы было прапанавана для разгляду шмат матар'ялаў датычных вайны ў Чачні. Самыя яскравыя зь іх мы вырашылі зьмясьціць на гэтай старонцы, пачаўшы яе вытрымкамі з прынятага 28 сьнежня 1999 г. дэпутатамі Сойму Літвы Звароту да Альберта Гора, малодшага, старшыні сэнату ЗША, і Дж. Дэніса Хастэрта, старшыні палаты прадстаўнікоў ЗША „Аб прычынах генацыду чачэнскага народу".**

## Аб прычынах генацыду чачэнскага народу

*Ход каляніізацыі Чачні.* У 1780 г. Масур Ушурма ствараe Чачэнскую дзяржаву. Расея інтэнсыўна пранікае на Каўказ, праводзячы палітыку „ад штыка да сякеры й агня", г. зн. татальнага вынішчэньня. Чачэнцы мужна абараняюцца.

Расейская імпэрыя, як і іншыя імпэрыі Эўропы, пашыралася па сушы ў бок суседніх земляў на поўдні і ўсходзе. У 1859 г. Расея зламала супраціў Дагестану й Чачні ды прыяднала гэтыя краіны да сваёй дзяржавы. Падчас войнаў і паўстаньняў 1847-87 гг. супраць Расеі ў Чачні колькасьць насельніцтва скарацілася з 1,5 млн. да 116 тыс. (!). Каб зламаць супраціў чачэнцаў, высякаліся лясы, зьнішчаліся населеныя пункты, на чачэнскай зямлі пасяляліся каляністы-казакі, ішло вынішчэньне людзей. Пра гэта сьведчыць і выпушчаны царом Аляксандрам II мэдаль „За завоевание Чечни и Дагестана", якіх было зроблена ажно 147 тыс. штук — такая колькасьць расейскага войску брала ўдзел у захопніцкай вайне на гарыстай мяйсцовасьці ў 80 тыс. км. кв.

*Праводзілася жорсткая каляніяльная палітыка.* Чачэнцы ўвесь час паўставалі. 11 траўня 1918 г. ствараецца Горская рэспубліка, абвяшчаецца незалежнасьць і адасабленьне ад Расеі. 8 чэрвеня 1918 г. навастворанaя краіна заключае дагавор пра сяброўства з Турцыяй.

*Чачэнцы змагаліся й з бальшавікамі.* У 1940 г., падчас Фінляндзкай вайны, чачэнцы паўсталі й абвесьцілі пра стварэньне Часовага ўраду. Праз гэта ў 1944 г. цалкам увесь народ быў сасланы ў Сыбір, Казахстан і Сярэднюю Азію, дзе яго пратрымалі да 1957 г.

*Негвалтоўнае й праўнае ўзнаўленьне незалежнасьці.* Узнаўленьне Чачэнскай дзяржавы йшло без гвалту й чалавечых ахвяраў, законна, мірным шляхам перадавалася ўлада. Камуністы сыйшлі ў адстаўку. 28 кастрычніка 1991 г. адбыліся выбары ў парлямант і на пасаду прэзыдэнта Чачні, была абвешчаная незалежнасьць. 31 сакавіка 1992 г. Чачня не падпісвае дагавор аб стварэньні Расейскай Фэдэрацыі й фармальна, і юрыдычна дагэтуль не ўваходзіць у склад РФ. 7 ліпеня 1992 г. з Чачні выведзеныя расейскія войскі.

*Вайна Расеі супраць Чачні.* 11 сьнежня 1994 г. Расея без аніякай фармальнай прычыны пачынае вайну з Чачнёй, падчас якой загінула каля 100 тыс. людзей. У 1996 г. Расея з Чачнёй падпісваюць Хасаўюртаўскае пагадненьне. Падчас дэмакратычных выбараў, прызнаных АБСЭ і Расеяй, абраны другі прэзыдэнт і парлямант Чачні. І, насуперак таму, што прэзыдэнты Ельцын і Масхадаў 12 траўня 1997 г. падпісалі дамову „О мире и принципах взаимоотношений между Россией и Чеченской Республикой Ичкерия", дзе прадугледжана ва ўзаемаадносінах абапірацца на нормы міжнароднага права, — Расея не кампэнсавала шкоду, нанесеную ў выніку вайны, і зьдзяйсьняе палітычную, эканамічную, інфармацыйную блякаду й ізаляцыю сувязі й зносінаў, абмяжоўвае перамяшчэньне людзей. Расейскія спэцслужбы арганізуюць унутраную разруху, правакацыі ды крымінальную й тэрарыстычную дзейнасьць злачынных груповак і рыхтуюцца да рэваншу за прайграную вайну.

У верасьні 1999 г. Расея, прыпісваючы Чачні тэрарыстычныя й правакацыйныя дзеяньні, выкарыстоўваючы дзеяньні няўрадавай групоўкі чачэнцаў у Дагестане, пачынае новую зьнішчальную вайну супраць Чачні й чачэнскага народу. Расея парушае падпісаныя пагадненьні й свае абавязкі перад Чачнёй, парушае дадатковыя пратаколы Жэнеўскай канвэнцыі ад 12 жніўня 1949 г. пра абарону ахвяраў ваенных канфліктаў, абмяжаваньня звычайных узброеных сілаў на Паўночным Каўказе, усталяваныя Дагаворам пра колькасьць сілаў звычайнага ўзбраеньня ў Эўропе, выкарыстоўвае гэтаксама віды ўзбраеньня, забароненыя міжнароднымі канвэнцыямі.

*Маральная, гістарычная, палітычная й праўная ацэнка.* Мы думаем што: 1) у чачэнскага народу ёсьць права на самавызначэньне, якое ён фактычна й юрыдычна дэкляраваў праз усю гісторыю свайго йснаваньня; 2) цяперашняя вайна, якую вядзе Расея, зьяўляецца тыпова каляніяльнай, зьдзяйсьняюцца злачынствы супраць чалавечнасьці.

Сёньня ААН, Савет Эўропы й АБСЭ не даюць акрэсьленьня расейскай палітыцы ў Чачні або даюць ацэнку толькі з гледзішча гуманітарных наступстваў і аднабакова. Пры адсутнасьці праўнай ацэнкі абходзяць маўчаньнем злачынствы Расеі супраць чалавечнасьці й адначасна не прызнаюць правы чачэнскага народу на самавызначэньне. Дэкалянізацыя ня можа спыніцца ў Афрыцы ці Ўсходнім Тыморы.

Абавязак палітыкаў — назваць тое, што адбываецца, сваім іменем і даць ацэнку зьяве. І пра гэта трэба гаварыць адкрыта.

## Ад імя вязьняў г. зв. „фільтрацыйных лягераў"...

Так пачынаецца Зварот да парлямантаў Латвіі, Літвы, Польшчы, Украіны й Эстоніі ўпаўнаважанага Чачэнскай Рэспублікі Ічкерыя ў справе расьследаваньня злачынстваў вялікадзяржаўнага расейскага шавінізму супраць чачэнскага ды іншых каўкаскіх народаў сп. Сайда-Хасана Абумусьлімава. І далей:

„...ад імя жыхароў акупаваных расейскімі агрэсарамі раёнаў Чачэнскай Рэспублікі Ічкерыя, а таксама жыхароў чачэнскай нацыянальнасьці Дагестану й Інгушэціі зьвяртаюся да Вас, прадстаўнікоў народаў, каторыя самі, будучы ў складзе Расейскай (царскай і савецкай) імпэрыі, не аднаго разу рабіліся ахвярамі генацыду з боку Расейскай дзяржавы, з просьбаю паставіць перад Парлямантамі, Саветам Эўропы, міжнароднымі праваабарончымі арганізацыямі пытаньне аб прыняцьці тэрміновых і эфэктоўных мераў узьдзеяньня на Расею з тым, каб спыніць масавыя рэпрэсіі расейскіх уладаў супраць мірнага насельніцтва на акупаваных чачэнскіх тэрыторыях. На акупаваных тэрыторыях Чачэнскай Рэспублікі Ічкерыя, а таксама ў Дагестане й Інгушэціі расейскія захопнікі арыштоўваюць чачэнцаў, у тым ліку жанчынаў і падлеткаў, якіх затым кідаюць у фільтрацыйныя лягеры, дзе яны катуюцца й зьбіваюцца, а многія зь іх бясьсьледна зьнікаюць...

Асабліва трывожыць лёс мірнага насельніцтва горада Джахар (Грозны). Расейскія акупанты зьдзяйсьняюць забойствы, марадзёрствы, рабункі, катуюць і зьдзекуюцца зь мірных жыхароў, у тым ліку з жанчынаў, старых, падлеткаў, раненых і інвалідаў. Такіх выпадкаў становіцца штодня болей. Пры гэтым хачу зьвярнуць Вашую ўвагу на той факт, што ў большасьці выпадкаў ахвяры расейскіх акупантаў не адважваюцца зьвяртацца ў міжнародныя праваабарончыя арганізацыі, таму што баяцца пагоршыць становішча сваіх арыштаваных і кінутых у фільтрацыйныя лягеры сваякоў, бо яны, сыходзячы з горкага досьведу мінулай вайны, лічаць, што зварот у міжнародныя арганізацыі не прынясе карысьці...

Прашу Вас зрабіць захады дзеля накіраваньня на акупаваныя Расеяй тэрыторыі Чачэнскай Рэспублікі Ічкерыя міжнародных назіральнікаў і стварэньня іхніх сталых місіяў на гэтых тэрыторыях да поўнага сканчэньня чачэна-расейскай вайны і стабілізацыі чачэна-расейскіх дачыненьняў на падставе нормаў міжнароднага права. Дазвольце выказаць пераконаньне у тым, што Вы, прадстаўнікі народаў, каторыя на сабе адчулі нялюдзкасьць Імпэрыі зла й хлусьні, каторая цяпер мянуецца „дэмакратычнай", — зробіце ўсё, што ў вашай моцы, каб пакласьці канец генацыду, якому расейская дзяржава напрацягу некалькіх стагодзьдзяў, перыядычна й мэтанакіравана, падвяргае чачэнскі народ за ягонае імкненьне жыць згодна з супольначалавечымі ўяўленьнямі аб свабодзе й годнасьці".

## Сакрэтная дырэктыва N 91/12-58 ад 22.12.99

была накіраваная ў Паўночна-Каўказкі ваенны вокруг у штаб 58-ай арміі, камандуючаму, генэрал-маёру Уладзіміру Шаманаву начальнікам Генэральнага штабу МА РФ Анатолем Квашніным:

„У выкананьне Прыказу Міністра абароны РФ N 1028/ск-128 ад 20 сьнежня 1999 загадваю:

1. Забясьпечыць у апэратыўным парадку:

— паказ для СМІ трупаў негрыцянскага й арабскага паходжаньня ў колькасьці, дастатковай для доказу масавага ўдзелу нэграў і арабаў у якасьці наёмнікаў на баку чачэнскіх бандфармаваньняў;

— доказы фактаў масавага забойства грамадзянскага насельніцтва Чачні, лаяльных расейскім уладам, баевікамі з бандфармаваньняў;

— дэманстрацыю спаленых трупаў мірных чачэнскіх грамадзянаў;

— сьведчаньні актаў марадзёрства й антычалавечых праяваў удзельнікамі чачэнскіх тэрарыстычных груповак і вахабіцкіх бандфармаваньняў.

2. Прыступіць да зьдзяйсьненьня фільтрацыі дапрызыўнай чачэнскай моладзі векам ад 10 да 14 гадоў з наступнай адпраўкай яе ў прыёмны пункт ваеннага камісарыяту Омска для далейшага пераразьмеркаваньня ў спэцыяльныя ваенна-навучальныя ўстановы..."

## Горы й даліны...

Службэбны, пэрсанальны ліст быў накіраваны 15 сьнежня 1999 г. да Старшыні Дзяржаўнай Думы Г. Н. Селязьнёва Сакратаром Савета Бясьпекі РФ Сяргеем Івановым. Там, у прыватнасьці, гаворыцца:

„Члены Савета Бясьпекі РФ абмяркавалі сытуацыю, якая склалася пры выкананьні другога этапу антытэрарыстычнай апэрацыі па ліквідацыі бандфармаваньняў на тэрыторыі Чачэнскай рэспублікі, і выпрацавалі рабочую канцэпцыю рэалізацыі ейнага завяршальнага этапу. На паседжаньні адзначалася, што населеныя пункты горнай Ічкерыі традыцыйна зьяўляюцца маральнай і матар'яльнай базай падтрымкі чачэнскіх тэрарыстаў і бандытаў. Жыхары гэтых раёнаў у адрозьненьні ад чачэнцаў, што насяляюць раўніну, у ва ўсе часы мелі яскравую антысавецкую, антырасейскую сэпаратысцкую арыентацыю на сэцэсію й заўсёды дапамагалі розным злачынным элементам. Цяжкадаступныя мясьціны горнага ляндшафту спрыяюць схаваньню тэрарыстаў і бандытаў, а празрыстасць 80-кіляметровы адцінак граніцы з Грузіяй дазваляе ім падсілкоўвацца іншаземнымі наёмнікамі, грашыма й зброяй. Канстатавалася, што гэтыя абставіны будуць перашкаджаць цалкавітаму й эфэктоўнаму зьнішчэньню бандфармаваньняў.

Удзельнікі абмяркаваньня пагадзіліся, што горныя пасяленьні чачэнцаў, якія складаюць менш 20% усіх населеных пунктаў Чачэнскай рэспублікі, не ўяўляюць колечы-якой значнай эканамічнай ці іншай каштоўнасьці ні для дадзенага суб'екта фэдэрацыі, ні для Расеі ў цэлым, і іх трэба цалкам зьліквідаваць у сэктары Бамут-Зандак-Ітумкале. Пры гэтым тут трэба стварыць умовы, цалкавіта непрыдатныя для пражываньня людзей у будучым, а рэшту мірных жыхароў з гэтай часткі Чачні неабходна перасяліць у ейныя паўночныя раёны за раку Церык ці асыміляваць у іншых рэгіёнах Расеі...

Дзеля гэтага прынятая пастанова заблякаваць чачэнскі адцінак расейска-грузінскай граніцы неабходным вайсковым дэсантным злучэньнем і зьдзейсьніць надзейнае перакрыцьцё ўсялякіх камунікацыяў з грузінскага боку. Аднachасна з гэтым плянуюцца інтэнсыўныя кропкавыя бомбавыя й ракетна-артылерыйскія ўдары па ўмацаваных пунктах бандытаў і тэрарыстаў, што будзе спрыяць ініцыятыўнаму выхаду й выштурхоўваньню рэшты грамадзянскага насельніцтва горных раёнаў па гуманітарных калідорах у зоны, якія кантралююцца фэдэральнымі войскамі. Усе натуральныя пабудовы (уключаючы культавыя й гістарычныя) горнага рэгіёну, старажытныя радавыя вежы, будуць прыраўненыя да аб'ектаў схаваньня бандфармаваньняў і будуць татальна зьнішчаныя. Пасьля сканчэньня вайсковай апэрацыі з гэтай часткі рэспублікі неабходна вывезьці ўсе будаўнічыя ды іншыя матар'ялы. У інтарэсах Расеі неабходна зрабіць гэты рэгіён безжыцьцёвым і назаўжды зьлківідаваць базіс для вырошчваньня новых бандытаў і тэрарыстаў..."

*Падрыхтаваў* **А. М.**



# Лінгвацыд або выцісьненьне мовы

Праця. Пачатак у N 27, 28, 29.

Пасьля часовай беларусізацыі школы й справаводзтва ў Беларусі ў 30-ыя гг. зноў пачалася русыфікацыя, тады яшчэ ва Ўсход-няй ейнай частцы (у Польшчы, як мы ведаем, палянізацыя школаў пачалася раней). Нават пры гітлераўскай акупацыі, пры адмоўным стаўленьні акупантаў да адукацыі беларусаў і ўсходніх славянаў наогул, былі адчыненыя беларускія школы. Напрыканцы 1941/42 школьнага году на той частцы Беларусі, якая ўваходзіла ў склад г. зв. Генэральнага камісарыяту Беларусі было 3485 пачатковых школак, у іх вучылася 346 тыс. вучняў і працавала 9716 настаўнікаў. Гэтыя коль-касныя пакашчыкі ня вельмі адрозьніваліся ад даваенных лічбаў (за папярэдні навучальны год на гэтай самай прыблізна тэрыторыі). А вось калі аўтар гэтага артыкулу вярнуўся з эвакуацыі ў вызвалены Менск, там былі адкрытыя беларускамоўныя школы толькі як няпоўныя сярэднія. У 1945/46 навучальным годзе мужчынская сярэдняя школа была адна на горад (42-ая), але рускамоўная.

У адносна лібэральны хрушчоўска-брэжнеўскі пэрыяд (калі вынішчэньня люду ў масавых маштабах ужо не было), колькасьць дзяцей, што вучылася ў бел. школах няўхільна зьмяншалася. Гэты працэс цягнуўся ажно да скону СССР і аднавіўся пасьля абраньня на прэзыдэнта А. Лукашэнкі. Працягваецца ён і цяпер.

Затое для расейскае мовы ствараліся ўмовы лепшыя, чым для беларускай. У жніўні 1978 г. ЦК КПСС і Савет Міністраў СССР выдалі пастанову "Пра мерапрыемствы па далейшым удасканаленьні навучаньня й выкладаньня расейскай мовы ў саюзных рэспубліках", а ў траўні 1983-га — пастанову "Пра дадатковыя меры паляпшэньня вы-вучэньня расейскай мовы ў агульна-аду-кацыйных і іншых навучальных установах саюзных рэспублікаў". У пастанове ЦК КПСС і Савета Міністраў СССР ад траўня 1984 г. "Аб далейшым удасканаленьні агуль-най сярэдняй адукацыі моладзі й паляпшэньні ўмоваў працы агульнаадукацыйнай школы" гаварылася: "У нацыянальных школах саюзных рэспублікаў вылучаюцца дадаткова 2-3 гадзіны на тыдзень у II-XI клясах на вывучэньне расейскай мовы". На падставе гэтых ды іншых пастановаў партыйныя ворганы і ўрадавыя структуры Беларускай ССР распрацавалі дэталёвыя меры далей-шага ўвядзеньня ва ўжытак расейскай мовы. Гэта, натуральна, азначала выцісьненьне мовы карэннага насельніцтва. Аплочвалася-ж гэтае "ўвядзеньне", зразумела, коштам саміх беларусаў.

Згодна падлікаў старшыні Менскай рады ТБМ А. Саламонава ў Менску ў 1998/99 школьным годзе агульная колькасьць вучняў складала 257 585. Зь іхняга ліку па-беларуску вучылася 29 180, г. зн. 11,33%. Калі падлі-чыць, што беларусы складаюць пераважную большасьць жыхароў Менску, лёгка даведаесься: большасьць беларускіх дзяцей пазбаўленая магчымасьці вучыцца ў роднай мове. Вышэй азначалася, што ў абласных гарадох не засталося ніводнае беларускае школы. Ці можаце вы сабе ўявіць падобнае стаўленьне да рускай школы й рускіх дзяцей на іхняй гістарычнай радзіме!?

У этыцы йснуе прынцып спачуваньня. Пачынаецца ён з таго, каб пастаіць сябе на мейсца іншага ды зірнуць на сьвет ягонымі вачыма. Калі я распавёў старшаклясьнікам двух пецярбурскіх школаў аб моўнай сытуацыі ў школе (і па-за школай) у Беларусі ды запытаўся, як бы яны аднесьліся да таго, каб у будучай аб'яднанай Расеі-Беларусі іх перавялі на бел. мову навучаньня, давалі магчымасьць чытаць пераважна бел. кнігі, часопісы, газэты, паказвалі-б толькі бела-рускамоўныя перадачы, — пачуў у адказ гул абурэньня. А вось беларусы маўчаць. Цярпелі й не такое. Ператрываюць і цяпер.

У 30-ыя гг. былі зьліквідаваныя ўсе бел. школы, якія ўзьніклі напачатку савецкай улады ў Сыбіры й на Далёкім Усходзе ў мейсцах кампактнага пражываньня беларусаў. Гэта яшчэ адзін штрых да супольнай кар-ціны...

Паколькі ад паступленьня ў ВНУ залежыць далейшы лёс выпускнікоў сярэдняй школы, а выкладаньне ў вышэйшай школе ў нас вядзецца выключна па-расейску, бацькі змушаныя ўжо дзесяцігодзьдзямі адмаўляцца ад таго, каб іхнія дзеці вучыліся ў школе на роднай мове.

Здаецца, колішні плян графа Навасільцава ажыцьцявіўся.

**9. "Свабода" выбару мовы**

Сапраўдная свабода выбару мовы магчы-мая толькі на правах раўнапраўнасьці моваў. Аднак такога не бывае ані ў вадной шмат-нацыянальнай дзяржаве. Там немінуча йснуе прыцiск і нават зьнішчэньне іншых нацыя-нальных культураў, моваў, дзеячоў, каторыя не належаць да тытульнай нацыі.

Словы пра правы чалавека ў выбары мовы йснавалі і ў законах Савецкага Саюзу, і ў другой Рэчы Паспалітай (1918-1939 гг.). У рэальнасьці там заўсёды для ўжытку выбі-ралася зусім не бел. мова. Гэта прыводзіла да страты беларусамі пачуцьця сваёй нацыянальнай прыналежнасьці (дэнацы-яналізацыі) й паглынаньня (асыміляцыі) іх суседнімі "брацкімі" народамі.

Адным з ключавых словаў у савецкай гісторыяграфіі было слова "дабраахвотна". "Дабраахвотна" нерасейцы "прыядноўваліся" да Расеі, "дабраахвотна" на ролю пасрэднiцы ў міжнацыянальных зносінах выбіралі расейскую мову. Звычайная лёгіка тых, хто занявольвае іншых, гэткая: ахвяра сама прасілася ў ярмо!

Сёньня, калі пачаліся размовы пра правы асобы, часам зь імі зьвязваюць і свабоду выбару мовы. Падразумеваецца адно: як бы гэтак, жывучы ў Беларусі, не карыстацца ды не вучыць беларускае мовы. Аднак супра-цьпастаўленьне правоў нацыі правам асобы ўзьнікае часьцей за ўсё ў каланізатараў. Гэта яны лічаць асобаю перадусім каланізатара й патрабуюць усіх тых правоў, якія маюць жыхары былой калёніі, не адмаўляючыся, зразумела, ад сваіх правоў каланізатара. Прыкладаў можна прывесьці шмат, пры-гадаю найсьвяжэйшы. 12 траўня 1999 г. на расейскім тэлебачаньні РТР у перадачы "Момент истины" прадстаўнік Кангрэсу рускіх абшчынаў у Казахстане абураўся з таго, што ў Казахстане ад чыноўнікаў патрабуюць абавязковага веданьня й вало-даньня казахскай моваю. Ён назваў гэта "забаронаю прафэсіі". Цікава, што ніхто не падказаў яму, шо ад урадоўцаў у Расеі патрабуецца абавязковае валоданьне рускай моваю! Дый каму падказаць, калі вядучы "Момента истины" А. Караулаў падзяляе думкі рускага каланізатара з Казахстану?

Чаму не прыходзяць думкі, падобныя да думак прадстаўніка з КРА ў галовы тым, хто пражывае ў краінах, дзе з правамі чалавека ўсё нармалёва? Чаму грамадзяне былога СССР не абураюцца, калі ў ФРГ і ЗША, каб уладкавацца на працу, трэба здаць іспыт на нямецкай і ангельскай мовах? Прыжджайце, калі ласка, у якую-небудзь эўрапэйскую ці амэрыканскую краіну ды паспрабуйце патрабаваць, каб з вамі размаўлялі "нор-мальным языком". І каб у школе, ва ўнівэр-сытэце выкладалі таксама на вашым "нор-мальном языке"!

"Свабода" выбару мовы ў сучаснай Беларусі азначае свабоду нявыбару беларускай мовы. Дэмакратычны лёзунг заняў мейсца колішніх непрыхаваных і прыхаваных прапановаў асымілятараў.

**Валянцін Грыцкевіч**

***Працяг у наступным нумары***

# "ЗАЛАТАЯ ІГОЛКА"

***Мне патэлефанаваў мой добры знаёмы й сказаў, што хоча са мной сустрэцца й пра нешта пагаварыць. Ён распавёў мне пра свой лёс і папрасіў, па-магчымасьці, апублікаваць ягоную споведзь. Падчас гутаркі ён некалькі разоў замаўкаў і, глытаючы сьлёзы, закурваў цыгарэту. Я перадаю ягоную споведзь бяз зьменаў і без камэнтароў. Кожны, хто яе прачытае, зробіць выснову сам. Завуць майго прыяцеля Мікалай, прозьвішча ён прасіў не ўпамінаць, як і мейсца жыхарства:***

А пачалося ўсё так. Сярод маіх знаёмых быў адзін чалавек, які ўжо паўгады спажываў наркотыкі, у прыватнасьці, гераін. Гераін можна не толькі "калоць", але й "курыць". Неяк ён прынёс з сабой "дозу" й прапанаваў мне бясплатна пакаштаваць гераіну. Растлумачыў, што паколькі я навічок, дык мне дастаткова будзе й паловы дозы, а яму, "бываламу", гэтага мала. Папярэдзіў ён мяне таксама й пра магчымыя пасьля ўжываньня наркаты "рвоты". Аднак тыя "рвоты" ў адрозьненьні ад алкагольных, супакоіў ён, вельмі прыемныя, а пасьля іх прыходзіць "расслабуха", прыемнае супакаеньне.

Мы выкурылі адну дозу на двух, і мне гэта спадабалася. Цераз некалькі дзён мой прыяцель зноў прыйшоў да мяне й сказаў, што можа купіць адну дозу, але ў яго не стае грошай. Адна доза кашавала 10 даляраў. Я дадаў сваіх 5, і мой "апякун" праз паўгадзіны прынёс чарговую дозу. Мы зноў пакурылі. Я працаваў у аўтасэрвісе й някепска зарабляў, таму для мяне 5 даляраў былі ня грошы... Так мы перыядычна пачалі "складацца", і прыблізна цераз месяц я адчуў, што "патрапіў у залежнасьць" —мяне пачало неадольна цягнуць да гераіну. Я папрасіў свайго "настаўніка" пазнаёміць мяне з "дылерам", каб самому, калі мне будзе патрэбна, купляць наркотык. На першую сустрэчу з дылерам мы пайшлі разам, а далей я ўжо пачаў купляць сабе гераін самастойна й сам-насам, цішком, курыў.

Хлопцы на аўтасэрвісе хутка адчулі ў ва мне зьмены, аднак на іхнія меркаваньні мне было напляваць. Мне цяпер непатрэбныя былі ні сябры, ні сяброўкі. Патрэбны быў толькі стан "кайфа" ды ўнутранага спакою. Мне ўжо было ўсё адно, дзе курыць, з кім і як. Аднойчы, калі я "курыў" падчас работы, мяне "застукаў" начальнік сэрвісу. З таго дня я больш не працаваў.

Каб атрымаць дозу, я пачаў прадаваць спачатку свае рэчы, а потым пачаў выносіць з дому ўсё, што патрапіць. Часам, калі нічога не ўдавалася прадаць, я краў грошы ў маці й нават, здаралася, у знаёмых. Мой твар азызнуў й стаў шэравата-жоўтым, а погляд зрабіўся пустым і страчаным – я перастаў быць падобным да самога сябе й баяўся глядзецца ў люстэрка, каб ня бачыць таго "дахляка", у якога паступова ператвараўся.

Неўзабаве я зразумеў, што на такое дарагое "задавальненьне", як гераін, у мяне ніколі не будзе ставаць грошай, і перайшоў на больш танную "шырку". Пачаў калоцца. Спачатку было больна, але потым прывык. Каб маці й сябры не заўважылі, калоўся пад калена, у пальцы ног, у пахвіну, – у кожнае мейсца, дзе былі вены. Маці, ведаючы ўжо маю "таямніцу", плакала па начах, сварылася на мяне, бегала па маіх сябрах і знаёмых, каб даведацца, дзе я бяру наркотыкі. Прапаноўвала мне лячыцца. Але я толькі зьбягаў з дому, хаваўся на гарышчах і ў падвалах, амаль нічога ня еў. Дамоў вяртаўся позна ноччу, а часам і не прыходзіў па некалькі дзён. Моцна схуднеў. Калі маці працавала, выносіў ейныя асабістыя рэчы, каторыя яна нажывала гадамі. Аднойчы, падчас нашае сваркі, у яе здарыўся інфаркт. Яна доўга ляжала ў бальніцы, яе ледзьве адкачалі. Калі яна вярнулася дамоў, мы селі на амаль пустой кухні (мэблі й посуду да таго часу на кухні амаль не засталося). Бачачы, што сэрца маці больш ня вытрымае, я пастанавіў легчы на лячэньне. Што будзе са мной, мне было ўсё адно, але маці я па-ранейшаму любіў, – гэта было, напэўна, адзінае чалавечае, што ў ва мне засталося.

Спачатку я ляжаў у асобнай палаце, потым перавялі ў агульную. Там я пазнаёміўся з такімі самымі, як я, "дахлякамі". Сярод іх не было ніводнага нармальнага чалавека, ніводнага нармальнага твару. Некаторых, асабліва "буйных", трымалі асобна, да іх не пушчалі нават сваякоў. Са мной працавалі дасьведчаныя лекары, псыхолягі. Мне калолі лекі, я піў таблеткі.

У бальніцы я праваляўся шэсьць месяцаў. Вярнуўшыся дамоў, пастанавіў уладкавацца на працу, аднак мяне, ведаючы маё наркаманскае мінулае, нідзе ня бралі. Мне ніхто ня верыў, у мяне было шмат пазыкаў. Некалькі месяцаў не знаходзячы працы, я пачаў абзвоньваць сваіх "старых сяброў". Адзін зь іх прапанаваў добрааплочваемую працу вадзіцеля. У мае абавязкі ўваходзіла забіраць "тавар" з аднаго мейсца ды перавозіць у іншае. Нічога цяжкога, а грошы, сапраўды, плаціці добрыя. (Як потым высьветлілася, перавозіў я крадзеныя рэчы). У мяне раптам зьявілася ўсё: грошы, сяброўкі, зь якімі я бавіў час у кавярнях і барах. Маці радавалася за мяне, думаючы, што жыцьцё ў мяне, нарэшце, наладжваецца. На адной "вечарыньцы" ў доме нашага знаёмага я зноў "успоўніў" сваё мінулае. Думаў, што гэта будзе толькі адзін раз, але мяне "засмактала" з новай сілай.

Хутка нашай "працай" зацікавілася паліцыя. Шмат каго з нашай кампаніі арыштавалі, аднак мне ўдалося зьбегчы. Амаль месяц хаваўся. Пазьней даведаўся, што на ўсіх нас заведзеная крымінальная справа і што мае "супрацоўнікі" засьведчылі, што арганізатарам усіх крадзяжоў быў я. Мне "сьвяціў" вельмі вялікі "срок". Калі маці ў паліцыі даведалася, хто былі мае "сябры" й чым мы займаліся, у яе, там-жа ў паліцыі, здарыўся другі прыступ і яна, не даехаўшы да бальніцы, памерла.


Зьдымак Генадзя Жынкова

Цэлы тыдзень я плакаў. Але як жыць далей? Грошай на наркотыкі, зразумела, у мяне ўжо няма, мяне шукае паліцыя, на мяне чакае турма. Але самае галоўнае, я згубіў адзінага чалавека, каторага любіў – сваю маці, і памерла яна праз мяне.

У турму мне ня хочацца: доўга я там не пратрымаюся. Напэўна, давядзецца скончыць самагубствам, бо іншага выйсьця ня бачу. Жыцьцё мне больш непатрэбнае...

*Калі ўжо быў падрыхтаваны гэты матар'ял, мне пазваніў адзін наш агульны з Мікалаем сябрук і паведаміў, што Мікалая больш няма. Ён сыйшоў з жыцьця, зрабіўшы "залатую іглу". Так на мове наркаманаў называецца апошні ўкол з сьмяротнай дозай наркотыка.*

**Алесь Трусаў**

ПОСТАЦІ

# Вучоба К. С. Дуж-Душэўскага ў Пецярбургскім Горным інстытуце ў 1912-1919 гадох

У Пецярбургскім дзяржаўным гістарычным архіве ёсьць "Дело N 12 585 Душевского Клавдия Степановича" (фонд N 963 — Петраградзкі Горны інстытут, вопіс N 1) на 89 аркушах, на каторыя я й буду пераважна спасылацца. "Справа" пачатая 20.07.1912 і закончаная 30.01.1919. Зь яе вынікае, што Клаўдзій Дуж-Душэўскі, паводле мэтрыкі — Душэўскі, нарадзіўся 27 сакавіка 1891 г. у мястэчку Глыбокае, валасным цэнтры Віленскай губэрні. Ахрышчаны 17 ліпеня 1891 г. у Глыбоцкім рыма-каталіцкім прыхадзкім касьцёле (аркушы NN 17,25).

З 16 жніўня 1902 г. па 7 чэрвеня 1911 г. К. Душэўскі вучыўся ў Віленскім рэальным вучылішчы, куды ён трапіў як мешчанін горада Трокаў Віленскай губерні (ар. N 3). Вызначаўся там Клаўдзій выдатнымі паводзінамі й закончыў поўны курс вучылішча на асноўным аддзяленьні. Праўда, узровень ведаў ён паказаў ня дужа высокі, бо "добрыя" й "выдатныя" адзнакі атрымаў толькі па Законе Божым, гісторыі, фізыцы й рысаваньню.

З 16 жніўня 1911 г. па 5 чэрвеня 1912 г. Душэўскі лічыўся ў дадатковай клясе таго самага вучылішча й таксама вызначаўся выдатнымі паводзінамі. У пасьведчаньні аб заканчэньні добрыя адзнакі ён атрымаў па гісторыі, рысаваньню й заканадаўству (ар. NN 4-6). У справе захаваўся й фатаздымак той пары (ар. N 5).

Згодна пасьведкі 1912 г.(ар. N 21) Душэўскі належыў да мяшчанаў рабочай клясы й мог паступаць ва ўсе вышэйшыя навучальныя ўстановы Расеі без аніякіх перашкодаў. 17 ліпеня 1912 г. ён падаў прашэньне ў Пецярбургскі Горны інстытут (ар. N 20), куды й быў неўзабаве залічаны. У справе адсутнічаюць, праўда, мэтрыкі й пасьведчаньне аб паходжаньні, але цалкам магчыма, што К. Душэўскі забраў іх, калі пасьля інстытуту паехаў працаваць у Менск. (Копіі дакумантаў у той час было зрабіць вельмі цяжка).

Згодна дакуманта ад 5.11.1912. К. Душэўскі падчас прызыву 1912 г. быў залічаны ратнікам апалчэньня 2-га разраду як студэнт, які карыстаецца правам на ільготу паводле сямейнага становішча першага разраду. Прызыў быў адтэрмінаваны да 28-гадовага ўзросту да 30.09.1915. (ар. N 3). *(Тут відавочная памылка — П. А.).*

Паводле справы N 6400 (Журналы Рады Горнага інстытуту, 1914 г. — той самы фонд і вопіс) Душэўскі трапіў у сьпіс 405 студэнтаў, падлеглых звальненьню праз няўносак платы за навучаньне, слуханьне лекцыяў у асеньнім сэместры, паўгодзьдзі 1914/15 навучальнага году (стар. 236-251). Унесьці трэба было 50 рублёў. Пастанова



*1891 — 1959*

аб звальненьні была прынятая Радай 3 лістапада 1914 г. Але ўжо на тым самым паседжаньні Рады было задаволенае прашэньне аб адваротным прыёме К. Душэўскага па ўнёску платы (стар. 252-273).

На аркушы N 15 зьмешчаная даведка ад "Петраградзкай Павятовай павоінскай павіннасьці Ўстановы *(Присутствія — П. А.)* ад 16.06.1916., дзе паведамляецца, што К. Душэўскі да воінскай службы непрыдатны, але пакінуты ў апалчэньні 2-га разраду.

Значную цікавасьць для высьвятленьня абставінаў навучаньня К. Душэўскага ў Горным інстытуце ўяўляе прашэньне ў студзені 1917 г. аб адтэрміноўцы для выкананьня 2-га мінімуму (ар. NN 8,9). З прашэньня вынікае, што паколькі Вільня ў 1915 г. была занятая непрыяцелем, К. Душэўскі апынуўся ў становішчы ўцекача, адарванага ад сваёй сям'і. Занепакоеньне пра лёс бацькоў, клопаты, звязаныя з высьвятленьнем іхняга лёсу, цяжкія весткі з дому, атрыманыя цераз Швайцарыю (паведамляецца, што бацька разьбіты паралюшам, а ўся сям'я памірае з голаду), — усё гэта стварыла тыя цяжкія варункі, у якіх Клаўдзій нармальна вучыцца ня мог. Усе яголя рэчы, ад кніжак да вопраткі, засталіся ў Вільні, і яму давялося працаваць, каб нанова набыць страчанае. Акрамя таго ён мусіў дапамагаць бацькам, высылаць ім грошы, каб дапамагчы ў цяжкіх абставінах (ар. NN 11-14).

Нарэшце (19.05.1916) Душэўскі быў прынятым на ваенную службу. Пасьля — вызвалены ад яе. У траўні-ж 1916 г. ён атрымаў ліст ад бацькі — з палону (ар. N 10).



*К. Дуж-Душэўскі з сынам і жонкай. 1935 г.*

Як можна зразумець з асобных дакумантаў, свае вакацыі Душэўскі праводзіў спачатку ў Вільні на вул. Перамонт, 10-16 (ар. NN 37,45). Далей геаграфія вакацыяў і вытворчых практыкаў пашыраецца. У траўні 1915 г. Душэўскі знаходзіўся ў Омску (ар. N 54), у тым самым траўні працаваў буравым майстрам у Табольскай вобл. (ар. N 55). З 24.03.1917. па 10.04.1917. ён у водпуску ў Менску (ар. NN 75,85). У верасьні 1917 г. Душэўскі служыў вольнанаёмным у Міністэрстве харчаваньня (ар. N 78). Цяжка меркаваць, ці ўсе гэтыя паездкі па Расеі зьвязаныя непасрэдна зь ягонай вучобай у інстытуце, аднак увесь разгляданы час ён быў студэнтам.

Можна адзначыць некалькі штрыхоў у паводзінах К. Душэўскага ў часе ягонага студэнцтва ў Пецярбурзе. Захаваўся дакумант (ар. N 73), паводле якога Душэўскаму вынесеная строгая вымова ў студзені 1915 г. праз несамавітыя прыёмы, ужытыя ім пры здачы экзамену па крышталёгіі. Ён быў пазбаўлены права здаваць экзамен у бягучым сэмэстры. Між тым аркушы NN 58,59 (лістапад 1916 г.) сьведчаць, што Душэўскі ні ў чым заганным заўважаны ня быў і паводзіўся выдатна. Зробленая паводле картатэкаў праверка, у тым ліку й паводле "чорных скрынкаў" (раней сакрэтных) на прадмет удзелу К. Душэўскага ў рэвалюцыйным студэнцкім руху нічога ня выявіла. Гэта азначае, што Душэўскі ў Пецярбурзе палітыкай не займаўся й пад тайным наглядам паліцыі ня быў.

Маецца дакумант (ар. N 57), паводле якога К. Душэўскі аддаваў дакуманты ў лістападзе 1916 г. у Аляксееўскае інжынернае вычылішча, аднак падрабязнасьці гэтага невядомыя. Аркуш N 80 сьведчыць, што Душэўскі займаўся на геалягічным факультэце Горнага інстытуту.

Апошнія гады навучаньня К. Душэўскага ў Петраградзкім Горным інстытуце *(Петраградам Пецярбург называўся з 1914 па 1924 гг. — П. А.)* засталіся для мяне вельмі й вельмі цьмяныя. Справа N 12 585 заканчваецца 30.01.1919 г. заліковай ведамасьцю Клаўдзія Душэўскага (ар. NN 88,89). Зь яе мы бачым, што "добра" й "выдатна" давалі-ся яму гэткія дысцыпліны, як дыфэрэнцыяльнае вылічэньне, сфэрычная трыгенамэтрыя, фізыка частковых сілаў, электрастатыка (электрычны ток), электрычнасьць і магнетызм, хімія, (неарганічная, аналітычная якасная і колькасная), крышталёграфія, агульная (фізычная) геалёгія, чарцёжныя работы, геадэзія.

У суворыя гады грамадзянскай вайны студэнты па-рознаму пакідалі свае інстытуты. Адныя атрымоўвалі дыплёмы аб заканчэньні, другія здавалі выпускныя экзамены, але дыплёма не атрымоўвалі, трэція атрымоўвалі выпускное часовае пасьведчаньне аб праслухоўваньні курсаў навукаў. У ацалелых у архівах тагачасных сьпісах тых, хто закончыў Горны інстытут, прозьвішча Душэўскага не сустракаецца, і пытаньне аб заканчэньні ім інстытуту застаецца адкрытым.

Зьвернемся цяпер да артыкула С. Рудовіч "Палітык, асьветнік, дойлід", бо скупыя архіўныя радкі не асьвятляюць удзелу К. Душэўскага ў працы Беларускага навукова-літаратурнага гуртка ў Пецярбурзе, у выданьні часопісу бел. студэнцкай моладзі "Раніца". Паводле словаў самога Душэўскага там быў распрацаваны праект нашага бел-чырвона-белага сьцягу (недзе на самым пачатку 1917 г.). У Пецярбурзе ён пабраўся шлюбам з Аленай Пракоф'евай, быў абраны петраградзкімі студэнтамі дэлегатам на Зьезд беларускіх арганізацыяў у Менску ў сакавіку 1917 г. Потым уступіў у шэрагі Беларускай Сацыялістычнай Грамады, а ў чэрвені 1917 г. быў абраны ў ейны Цэнтральны Камітэт і ў Прэзыдыюм ЦК БСГ. Ён удзельнічаў у рабоце Ўсерасейскай дэмакратычнай нарады. Пасьля кастрычніцкіх падзеяў згубіў сталае мейсца працы ў Міністэрстве харчаваньня, змушаны быў шукаць часовыя прыработкі ў Белнацкаме й іншых мейсцах. Недзе летам 1918 г. уступіў у Беларускую партыю сацыялістаў-рэвалюцыянэраў. Далей у артыкуле С. Рудовіч чытаем: "К. Душэўскі здае апошнія залікі ў Горным інстытуце і пераяжджае ў Мінск, знаходзіць тут працу па набытай спецыяльнасці". У красавіку 1919 г. ён накіроўваецца ў службовую камандыроўку ў Вільню, дзе й застаецца жыць.

Я ня ведаю, дзе тыя дакуманты, што падцьвярджаюць здачу Душэўскім апошніх залікаў у інстытуце, аднак згодна С. Рудовіч можна вельмі пэўна сьцьвярджаць, што гэта адбылося ў першай чвэрці 1919 г. Пахвальна, калі С. Рудовіч карысталася ня толькі аўтабіяграфіяй К. Душэўскага, напісанай у 1934 г. (аўтабіяграфія захоўваецца ў Менску, у архіве-музэі літаратуры й мастацтва).

Пошукі, пошукі... За сваё жыцьцё К. Дуж-Душэўскі (а памёр ён 25 лютага 1959 г. у Коўні) пасьпеў зрабіць шмат чаго добрага. Ня выключана, што пэўныя зьвесткі пра яго могуць мець Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў Рэспублікі Беларусь, Цэнтральны дзяржаўны архіў у Менску, Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў Літоўскай Рэспублікі й Цэнтральны дзяржаўны архіў Літоўскай Рэспублікі. У 1927 г. Клаўдзій Дуж-Душэўскі скончыў тэхнічны факультэт Літоўскага ўнівэрсытэту ў Коўні, атрымаў спэцыяльнасьць інжынера-будаўніка, а пасьля Другой сусьветнай вайны быў дацэнтам Каўнаскага ўнівэрсытэту.

**Пятро Амбрасовіч**

**PS. Шаноўныя аўтары! Газэта "Рунь" не зьяўляецца выданьнем, дзе творы навуковага характару друкуюцца ў такім выглядзе, як гэта прынятае ў адумысловых навуковых выданьнях: з усімі выкладкамі, спасылкамі, доказамі, адступленьнямі й пад. Таму вельмі просім улічваць нашую спэцыфіку й дасылаць артыкулы ў спрошчаным і скарочаным (газэтным) варыянце.**

# Беларусаў усяго сьвету вішуем са сьвятам 25 Сакавіка!

## 25 САКАВІК

Ня спалі нашы дэпутаты,
Праз ноч усю вялі дэбаты,
Пастанавілі галасамі:
"Час стацца нам гаспадарамі!"

Адранку ўсе газэты весьцяць
Пра Беларусі незалежнасьць,
Што ўжо Рэспубліку стварыла
І свой урад ажыцьцявіла.

Рашэньні зь Менску громам палі
І моцным рэхам прагучалі,
І паляцелі на край сьвету,
Разносячы навіну гэту.

Хтосьці "дэ-факто" ўрад вітае,
Хтосьці яго "дэ-юрэ" мае –
А Беларусь дзяржаву творыць,
І за мяжой аб ёй гавораць.

Але суседзі мелі сілу
І ўсьцяж капалі ёй магілу,
На Край наш арміі паслалі
І Беларусь заваявалі.

Насталі цяжкія гады
Прыгнёту, нэндзы і бяды...
Але ў народзе жыў свой дух,
Агонь свабоды не патух.

І дзе б ня жыў наш беларус,
Ці вольны ён, ці зносіць мус,
Дзень гэты для яго вялік:
Наш 25-ты Сакавік!

**Юры Весялкоўскі**

## Што да пашырэньня "Руні"

дык калі матар'ял у ёй будзе належна падбірацца, будзе цікавы, зь якога чытач можа набываць веду (з зьмешчаных лекцыяў бел. мовы, з гісторыі ды інш), знойдзе там нешта пра здароўе, ежу ды сацыяльныя й прафэ-сыйныя парады, — тады людзі самі будуць зьвяртацца ў рэдакцыю за падпіскай. Доўгія артыкулы, накшталт "Пакт Молатава — Рыбэнтропа...", "Лінгвацыд або...", "Косава — інтэгральны індэкатар..." і пад., тычацца да вузкага кола асабістасьцяў, як Шушкевіч, Шарэцкі ды інш. Для шырокага грамадзтва гэтыя артыкулы нічога не перадаюць. Мне думаецца, што нашым палітыкам, перадусім зь Беларусі, належыць прымяняць свае здольнасьці больш канкрэтна, хоць бы й так, як працуюць дзеячы з вас.

Газэты на Захадзе прыймаюць вядомых таленавітых палітычных аглядальнікаў (калюмністаў), якія закранаюць самыя важныя справы, але коратка, каб чытач мог лёгка ўспрымаць. Такой лёгкасьцю ўспры-маньня адзначаюцца й асобныя матар'ялы ў "Руні", напрыклад, "Віленская калекцыя" — задума вельмі добрая. Калі "сабраць" гэтую калекцыю, дык атрымаецца дапаможнік з гісторыі беларускай Вільні. Вось і я думаю, варта вызначыць такія "куткі" й для бел. мовы, гісторыі ці чаго іншага.

Я тут ня маю найменшага намеру кры-тыкаваць "Рунь" — выказваю толькі сваю думку, зь якой можа дасца штось скарыстаць. Маю шчырае жаданьне, каб "Рунь" сталася газэтай шырока папулярнай.

**Алесь Міцкевіч**
***Амэрыка***

## Пра сустрэчу С. Шарэцкага

зь беларусамі Амэрыкі распавядаецца ў *"Вестках і паведамленьнях нью̈ёрскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзі-ночаньня" (N 2/2000)*. Сустрэча адбылася ў Нью Ёрку, 30 студзеня, у банкетнай залі пры Украінскім Народным Доме. У сваёй прамове Сямён Шарэцкі, у прыватнасьці, сказаў:

"...Эўропа, на жаль, не гатовая або няздольная зразумець важнасьць беларускай справы для стабільнасьці на кантынэньце. Узяць хоць бы немцаў — у лепшым выпадку іхнія крокі нэўтральныя. Таму застаецца надзея толькі на ЗША. Толькі Амэрыка здольная паўплываць на маскоўскіх шаві-ністаў і запатрабаваць спыненьня падкормлі-ваньня Лукашэнкі. Каб не палітычнаая ды эканамічная падтрымка рэжыму з боку Расеі, дык яго хапіла-б толькі на два тыдні. Амэрыка мае моцныя прылады эканамічнага ўплыву на Расею й магла-б зрабіць такі ціск. Таму я зьвяртаюся да вас і прашу, каб вы дапамаглі ў справе давядзеньня сытуацыі ў нашай краіне да самых высокіх дзяржаўных інстан-цыяў Амэрыкі..."

Сп. Віталь Зайка, Старшыня Ньюёрскага аддзелу БАЗА, уручыў Старшыні ВС Беларусі Сямёну Шарэцкаму значок з выяваю бел-чырвона-белага сьцягу. Згадва-ючы нядаўні прыкры інцыдэнт з нацыя-нальнымі сымбалямі ў сядзібе ТБК ў Вільні падчас прэс-канфэрэнцыі генэральнага пракурора РБ, сп. Шарэцкі патлумачыў, што "газэта "Наша Ніва" неадэкватна адлю-стравала гэта".

## У Фудацыі ймя Крачэўскага

12 лютага прайшоў чарговы сход Нью-ёрскага аддзелу БАЗА. Госьцем сходу быў старшыня Беларускага Народнага Фронту (?) сп. Зянон Пазьняк...

...сп. Пазьняк закрануў пытаньне сродкаў масавай інфармацыі Беларусі... У Беларусі, на жаль, адраджэнскі рух *(тут і далей паводле словаў сп. Пазьняка! — рэд.)* ня мае ўласнай афіцыйнай друкаванай прадукцыі, і гэты вакуўм запаўняецца агентурнымі выданьнямі — так званай "незалежнай прэсай". Крытыку-ючы рэжым, яны таксама крытыкуюць БНФ ды іншыя адраджэнскія плыні. І гэта адыграла сваю ролю ў інфармацыйнай вайне, калі антыбеларускія сілы пастанавілі зьнішчыць БНФ... БНФ захаваў сваю афіцыйную рэгістрацыю, а група, што адыйшла (пры-кладна 30% дзейных (?) сябраў), фактычна не зьяўляецца зарэгістраванай арганізацыяй. Аднак чамусьці ўся інфармацыя на Інтэрнэце і ў "незалежных" газэтах прысьвячаецца менавіта ёй...

***"Весткі й паведамленьні" (3/2000)***

## Парадоксы

У Беларусі сярод праваслаўнага насель-ніцтва каля 80% ёсьць беларусы. Але галавой Беларускай праваслаўнай царквы зьяўляецца расеец — мэтрапаліт Філарэт. Калі гаварыць аб рыма-католіках, дык сярод іх толькі 27% палякаў, астатнія —беларусы. Але галавой рыма-каталіцкага касьцёлу ёсьць паляк, кардынал К. Сьвентак. Япіскапы гэтаксама — палякі. Католікаў усходняга абраду (грэка-католікаў) ў Беларусі мала. Галавой гэтай царквы ёсьць паляк... Ня ведаю, якім этычным законам гэтае ўсправядлівіць. Ведаю толькі, што няма нідзе ў сьвеце такой, як Беларусь, дзяржавы, дзе нацыянальныя меншасьці кіруюць карэнным народам.

**М. Швэдзюк**
***Англія***

## Трохі аб Рыскім пагадненьні

18 сакавіка 1921 г. ў палацы Чарнагаловых у Рызе было падпісанае пагадненьне паміж Польшчай, Расеяй і Украінай, якое, між іншым, устанавіла польскую ўсходнюю граніцу. Ад Беларусі ў перагаворах удзель-нічаў А. Чарвякоў, але ягонага подпісу ад Беларусі пад дакумантам няма. Дык можна сьмела сказаць, што Рыскае пагадненьне, ягоныя пастановы, граніцы, абавязкі й г. д. Беларусі не датычыцца ані маральна, ані юрыдычна. Трэба таксама памятаць, што ганебнае Рыскае пагадненьне падзяліла Беларусь на дзьве часткі. А падзялілі яе нашыя суседзі, блізкія, свае, браты, — слявяне...

Аб Рыскім пагадненьні шмат пісалася, і ягоныя вынікі добра ведамыя. Але-ж мала каму ведама, што ў Рызе падчас перамоваў бальшавікі былі гатовыя адрачыся ад Мен-ска. Ды вось самі палякі адмовіліся яго браць. Мабыць, не хацелі мець у сваёй дзяржаве такую вялікую колькасьць беларусаў.

Пасьля таго, як палякі адмовіліся ад Менску, В. Грабскі (адзін з высокапас-таўленых сяброў польскай дэлегацыі) сказаў, што ён "выразаў менскую скулу". Зразу-мела, што пасьля гэтага палякі наракалі на Грабскага даўжэйшы час і дзеля таго, што Менск застаўся за ўсходняй граніцай Поль-шчы, у польскім сойме загрымелі словы "Каіне Грабскі!".

З зразумелых прычынаў у былым СССР і, напэўна, у цяперашняй Беларусі не пісалі й ня пішуць, што ў 1921-ым бальшавікі аддавалі Менск палякам. Сягоньня, калі ў Беларусі сталася модным "тварыць славянскі саюз", трэба памятаць і нагадваць, як "браты-славяне" дзялілі Беларусь ды прапаноўвалі палякам нашую сталіцу Менск.

17 верасьня ў Беларусі праходзілі сьвят-каваньні з нагоды 60-годзьдзя ўзьяднаньня Беларусі. Гэта добра й слушна. Аднак дзеля гістарычнае праўды не трэба было-б маўчаць і аб тым, цераз каго Беларусь засталася пры Польшчы. Каб не было падзелу, не было-б і ўзьяднаньня. Вось што пісаў Я. Колас пасьля таго крыўднага й балючага падзелу Бацькаўшчыны:

*Нас падзялілі... хто? Чужаніцы,*
*Цёмных дарог махляры.*
*К чорту іх межы! Да д'ябла граніцы!*
*Нашы тут гоні, бары!*

**М. Швэдзюк**

## З дакладных крыніцаў

Пад такой рубрыкай газэта *"Голас Радзімы" (N 7/2000)* надрукавала дадзеныя за 1999 Камітэту па барацьбе з арганізаванай злачыннасьцю й карупцыяй пры МУС Беларусі. Паводле дадзеных былі выяўленыя й выкрытыя 133 крфымінальныя групоўкі, спыненая дзейнасьць 4 узброеных бандыцкіх фармаваньняў, было выяўлена й выкрыта 4 тыс. злачынстваў, 45% зь якіх складаюць злачынствы ў эканамічнай сфэры. Супрацоўнікамі Камітэту было канфіскавана 175 адзінак агнястрэльнай зброі, больш за 40 тыс. патронаў і 30 кг выбуховых рэчываў. На "наркалягічным фронце" было канфіска-вана каля 400 кг наркотыкаў, што эквіва-лентна 100 тыс. аднаразовы дозаў. Супрацоўнікамі Камітэту было вернута дзяржаве матар'яльных каштоўнасьцяў, маёмасьці й грашовых сродкаў больш чым на 3 трлн. бел. рублёў, спыненая дзейнасьць 300 фірм-аднадзёнак, каторыя працавалі на валютным рынку. У выніку арыштавана сродкаў на 2,3 млн. дал. Матар'яльны эфект ад праведзеных апэратыўна-прафіляктычных і спэцыяльных мерапрыемстваў на валютным і спажывецкім рынках склаў каля 500 млрд. бел. рублёў. Даючы гэтыя дадзеныя, кіраўнік Камітэту сп. Міхаіл Мядзьведзеў некалькі разоў падкрэсьліваў, што Беларусь у параўнаньні з Расеяй зьяўляецца "спакойнай, бясьпечнай дзяржавай" і што маштабы дзейнасьці нашых айчынных злачынных згуртаваньняў нельга параўнаць з крымінальнымі групоўкамі ў Расеі... Нельга не ўхваліць працу Камітэту, аднак узьнікае пытаньне, што чакае Беларусь, калі раптам яна й сапраўды ўвойдзе ў склад Расеі і да нас рыне расейскі крыміналітэт? Несумненна таксама, што большасьць цяпе-рашніх "злачынстваў у сфэры эканомікі" выкліканыя жабрацкім матар'яльным стано-вішчам беларускага народу ды нялюдзкімі законамі нялюдзкага рэжыму, каторы не дае нашам грамадзянам нармальна працаваць і жыць.

**Мікола Пяткевіч**
***Менск***

## Альбо людзтва ўсьвядоміць

рашаючую ролю нацыі для свайго сама-захаваньня й эвалюцыйнага разьвіцьця, альбо цывілізацыя зьнікне ў бліжэйшае стагодзьдзе. Апошняе будзе натуральнай праявай фундамэнтальнага прынцыпу самаарганізацыі матэрыі, адказам Прыроды на трывумф чалавечай дурноты... Так заканчвае свой артыкул "Расея — эпіцэнтар разбуральных сілаў міравой супольнасьці" к.т.н. **Валеры Арцішэўскі**, наш сталы аўтар зь Менску. Артыкул гэты мы пачнем друкаваць у наступным нумары газэты.

## Мая незабыўная сустрэча з Бацькаўшчынай

пасьля 50 гадоў растаньня, адбылася 13 лютага 1992 г., калі я цягніком з Варшавы прыехаў у Менск. Спатыкалі з кветкамі й бел-чырвона-белымі сьцягамі. Ад радасьці я ўкленчыў, перахрысьціўся, пацалаваў бела-рускую зямельку. Заважаўшы духоўніка, папрасіў у яго багаславеньня. Ераманах Іаан багаславіў мяне. Віталі мяне знаёмыя й незнаёмыя. Мая будучая жонка, Тамара Новікава, вітала мяне з букетам чырвоных гвазьдзікоў, позірк ейных вачэй запаланіў мяне. Сустракаў мяне сын Кахаsuccoўскага, таксама Яўген, толькі ягонае прзьвішча ня зьмененае — Калубовіч, сутракаў вядомы археоляг Георгі Штыхаў, зь якуім ліставаліся амаль 30 гадоў, мастак Міхась Карпук, мой зямляк, зь якім разам хадзілі ў школу ў Высока-Літоўску. 15 лютага, на Грамніцы, адправіўся ў Сьвята-Духаўскі сабор, дзе служыць мітрапаліт Філарэт. Вакол сабору некалькі сотняў прыхаджанаў рознага веку, са сьвечкамі, слухалі праз галасьнікі Багаслужэньне, бо ў саборы не ставала мейсца ўсім малельнікам. Відовішча гэтае моцна мяне ўсхвалявала, калі пабачыў, што й моладзь прымае ўдзел у набажэнстве. Я пачаў прабірацца да царкоўных дзьвярэй, як хтосьці пацягнуў мяне за паліто. Каля мяне стаяў ужо знаёмы ераманах Іаан, растлумачыў, што пасланы мітрапалітам, каб прывесьці мяне ў сабор. Праз бакавыя дзьверы мы спусьціліся ў сутарэньні й выйшлі на правы бок алтара. Ераманах правёў мяне на салею, дзе я спакойна памаліўся. Тымчасам багаслужэньне скончылася, і ўладыка Філарэт пачаў ка-заньне. Калі скончыў, паклікаў мяне й прыцішана сказаў: "Даю табе права прыві-таць суродзічаў". Я на хвілю разгубіўся, бо ня чуў такога, каб сьвецкая асоба, звычайны чалавек удастойваўся права з амбону прамаўляць да народу. Набраўшы паветра ў грудзі, я ўсхвалявана прамовіў: "Вітаю вас, суродзічы, ад беларусаў Амэрыкі, якія зычаць вам здароўя і ўсяго найлепшага. А ад сябе перадаю сярэбраную іконку Сьв. Еўфрасіньні Полацкай, зробленую да 800-годзьдзя ейнай сьмерці!" Дрыготкімі рукамі перадаў сярэбраную іконку мітрапаліту. Філарэт, прыняўшы яе, пацалаваў і пачаў багаслаўляць ёю вернікаў. Мяне апанавала радасьць, што іконка, зробленая з маёй ініцыятывы, здабыла такую пашану на Бацькаўшчыне. Ад усяго гэтага пераж ытага я заплакаў, а ўладыка абняў мяне, супакоіў і багаславіў... Гэта было 8 гадоў таму, але падзея тая стаіць перад вачыма, быццам адбылася ўчора.

**Міхась Белямук**
***Амэрыка***

## Мне людзі не даюць спакою

чаму вы на газэце "Рунь" пішаце "газэта беларусаў Літвы", а не "Летувы"? Калі ласка, патлумачце гэта.

**Міхась Раецкі**
***Аўстралія***

*Шаноўны сп. М. Раецкі! Сапраўды, мы, беларусы, дзеля адрозьненьня сучаснай "Летувы" ад гістарычнай "Літвы" маем поўнае права называць Летуву "Летувой", а лятувісаў "лятувісамі" (як, зрэшты, і робіць шмат хто зь беларусаў на эміграцыі). Аднак-жа нашая газэта ад самага пачатку, паколькі нарадзілася ў старажытнай сталіцы ВКЛ, не імкнулася быць толькі газэтай беларусаў Летувы, а таму мы аддалі перавагу значэньню "Літва", падкрэсьлі-ваючы тым самым больш шырокую гіста-рычную ды геаграфічную арыентацыю "Руні".*

# ЛІТОЎСКІ ФАШЫЗМ: ПЕРШАЯ ПЕРАМОГА



Здымак Генадзя Жынкова

На Балтыйскім канале Літоўскага ТБ нядаўна зьявілася новая праграма: шоу пад назваю „Карыда". Схема такая: супраць „быка" выступаюць некалькі „тарэра", якія дыскутуюць на зададзеную тэму. У ролі „быка" ва ўсіх перадачах выступае адна тая самая асоба — акторка й дэпутат Сойму Ніёле Ожэлітэ. Пераможцу вызначаюць гледачы: адзін тэлефон пададзены на экране для галасоў за „быка", другі нумар — для прыхільнікаў „тарэра".

Апошняя перадача (18 лютага) была прысьвечаная праблеме літоўскага фашызму. У ролях „тарэра" выступалі правадыр Шаўляйскай арганізацыі нацыянал-патрыётаў Міндаўгас Мурза, нейкі прафэсар, роля якога была аздабляць слоўнымі карункамі немудрагелістыя ідэі фюрэра, ды яшчэ адзін чарнарубашачнік. Іх падтрымлівала ззаду маўклівая група гэтак-жа апранутых брытагаловых юнакоў зь нізкімі ілбамі.

Спадар Мурза адразу-ж папярэдзіў „быка" (ці то „бычыху"), што калі яна хоць раз назаве яго й ягоных паплечнікаў „фашыстамі" ці „нацыстамі", ён неадкладна падасьць на яе ў суд за паклёп і зьнявагу, маўляў, і свастыка нашая зусім ня свастыка, а старажытны „крыж сонца", і ідэі іншыя...

Прыём, разьлічаны хіба што на вельмі наіўных людзей: свастыка гітлераўцаў была прыдуманая за многія сотні гадоў да іх, і самі гітлераўцы лічылі сябе не нацыстамі, а нацыянал-сацыялістамі. Да таго-ж важная сутнасьць, а ня назва. Партыі Гамулкі ды Хонекера таксама не называлі сябе камуністычнымі, але каго гэта можа ўвесьці ў зман? І тут голым вокам бачнае малпаваньне фашыстоўскай сымболікі — чырвоны сьцяг з крыжам у белым коле, чорныя уніформы й г. д.

„Фашызм просты, як палка," — сказаў некалі Аляксандар Якаўлеў, ідэал „перабудовы". Ідэі спадара Мурзы таксама ня дужа складаныя: у Літве павінныя быць панамі толькі літоўцы; усё павінна належыць ім, а не іншаземцам; з усіх бакоў Літву абкружаюць ворагі-касмапаліты... Бедная спадарыня Ожэлітэ праз увесь час дамагалася высьветліць, якімі мэтадамі спадар Мурза зьбіраецца пераканаць усіх у сваёй рацыі. Фюрэр ўтаропіў у акторку валавяны позірк і выцадзіў: „Мы ўсіх пераканаем!" А пан прафэсар падтрымоўваў свайго партэйгенасэ вучонымі тэорыямі. Зрэшты, і сам спадар Мурза ўвесь час падкрэсьліваў, які ён граматны, як выдатна ведае гісторыю, а яна, „бычыха", ніхалеры ня цяміць.

Тым часам на экране шалёна мільгалі лічбы. Колькасьць галасоў „за" фюрэра была амаль у паўтара разы большая, чым „супраць". Варта адзначыць, што гэта была першая паражка „быка" Ожэлітэ — ва ўсіх папярэдніх перадачах гледачы падтрымлівалі ейную пазыцыю.

Арганізацыя спадара Мурзы пакуль беспасьпяхова (ці не разоў сем) спрабуе зарэгістравацца, каб афіцыйна ўзяць удзел у выбарах. Знарок ці незнарок, але „Карыда" сталася самай высокай дагэтуль трыбунай для прапаганды ідэяў спадара Мурзы й адначасна — сацыялягічным дасьледаваньнем, ці мела-б ягоная арганізацыя посьпех на чарговых выбарах. Высьветлілася, што мела-б! І ня дзіўна — сёньня ягоныя словы як бальзам на раны: ізноў мы не гаспадары на сваёй зямлі; подлыя касмапаліты хочаць нас, літоўцаў, пазбавіць нацыянальнай годнасьці, мовы, тоеснасьці, звычаяў; трэба супраціўляцца; і мы, толькі мы, патрыёты, навядзем парадак!

Што-ж, трэба прызнаць, спадары кансэрватары, каторыя чацьверты год кіруюць краінаю, заварылі адпаведную брагу, на якой зь лёгкасьцю ўтвараецца фашыстоўскае шумавіньне. Беспрацоўе, галеча, адсутнасьць якога-колечы паляпшэньня за 10 гадоў незалежнасьці, несправядлівасьць, калі адныя зарабляюць, ці, дакладней, атрымліваюць ні за што дзясяткі й сотні тысячаў, а іншыя за цяжкую працу — цэнты, калі ў гатэлях ды рэстаранах раскашуюцца толькі іншаземцы, якія, між іншым, і не зьбіраюцца вывучаць дзяржаўнай мовы, хоць прыбралі да рук ледзь ня ўсю літоўскую гаспадарку, — чаго яшчэ чакаць у гэткай краіне?

Нехта сказаў, што фашызм — як вошы, якія зьяўляюцца толькі на занядбаным целе. Рацыя тут ёсьць, і вошай можна зьнішчыць ня столькі лоўляй па адной, колькі агульнай гігіенай... Але вось-жа ў сытай ды чыстай Аўстрыі ва ўладныя структуры прарваліся людзі, блізкія сваімі поглядамі да шаўляйскіх „патрыётаў". (Гэты факт, дарэчы, вельмі натхніў і падбадзёрыў Мурзу й ягоных хаўрусьнікаў).

Бясспрэчна, у аснове зьявы ляжаць прычыны эканамічныя, незалежна ад узроўню эканомікі. І ўсё-ж, мне здаецца, недаацэненай застаецца сатанінская здольнасьць усіх фашыстаў ва ўсіх краінах абуджаць у чалавеку цёмныя бакі ягонай падсьвядомасьці, прарошчваць зерне зла, каторыя бязь іхняй дапамогі так і засталіся-б неўзыйшоўшымі. Ці-ж не разьлічаныя-пралічаныя да драбніцаў і фашыстоўскія рытуалы, і ўніформы (успомніце, які прыгажун быў Штырліц у эсэсаўскай форме), і „лёгкастраўныя" ідэі? Тут нараджаюцца асацыяцыі з гіпнозам, з наркотыкам. Ужо, здавалася-б, усім вядома, якое бывае цяжкое пахмельле пасьля фашыстоўскага куражу, а ўсё —на ўзьвей-вецер. Што ўжо гаварыць пра Літву, калі ў Расеі пасьля ўсёй прапаганды, пасьля столькіх Курганоў Славы, абеліскаў ды салютаў у Дзень Перамогі, незьлічоных фільмаў, аповесьцяў, песень, гімнаў, сымфоніяў, — па Маскве свабодна маршыруюць мардавароты з свастыкай уласнай гадоўлі...

А цікава, ці сябруюць маскоўскія фашысты зь літоўскімі? Прынамсі, калі-б баркашоўцы прыйшлі да ўлады, дык ад іхніх літоўскіх калегаў засталося-б мокрае мейсца — як і ад нас з вамі таксама. А ці маюць пэрспэктывы паплечнікі спадара Мурзы?

Тут таксама ёсьць многа аргумэнтаў як „за", гэтак і „супраць". Гісторыя ХХ ст. яскрава паказвае, як лёгка самыя вар'яцкія ідэі могуць авалодаць масамі, як лёгка ўсплывае наверх тое, што, здавалася-б, пахаванае навек. Ня трэба быць вялікім стратэгам, каб зразумець, каму найперш выгадны быў-бы прыход да ўлады мяйсцовых фашыстаў у Літве. Я маю на ўвазе расейскіх камуністаў: гэта ім найбольшым падарункам была-б падобная дэскрэдытацыя незалежнасьці Літвы, маўляў, а што мы гаварылі ў 91-ым?! І тады Макутыновіч і Няўзораў („герої" бітвы за Віленскую тэлевежу ў тым самым 91-ым) апрануць белыя строі змагароў з карычневай чумою. А там — адзін крок да „вызваленьня" Літвы ад фашысцкай дыктатуры, „маленькая победоносная война". У выніку мы можам мець на мейсцы Вільні тое, што чачэнцы маюць сёньня замест Грознага, ці, як цяпер завецца гэтая марсіянская тэрыторыя — Джахаргалы.

Няма сумненьняў і ў колькасьці будучых „штурмавікоў" фюрэра Мурзы. Ужо цяпер каля 30 тыс. дзяцей у Літве не наведваюць школу. Такім вельмі проста будзе ўкласьці ў пустыя галовы нескладаную думку, што яны, хоць „акадэміяў не канчалі" — вышэйшыя за любога фізыка з Ігналінскай АЭС, бо той не літовец.

Але нельга ўсё-ж сказаць, што Літва для Мурзы такі ўжо сьпелы яблык, які гатовы так проста ўпасьці яму ў пашчу. Залішне многа тут людзей, якія будуць бараніць сваю маёмасьць. Ня думаю, што гаспадары „Тэлекомасу" ці таго самага славутага „Вільямсу" бяз бою адступяцца ад правоў на сваё майно. Дый падтрымкі з-за мяжы пакуль не відаць: Аўстрыя апынулася амаль у ізаляцыі, Лукашэнка сам трымаецца коштам Расеі.

...Грамафонныя плыткі даўно выйшлі з моды, але, мабыць, штосьці „заела" ў машыне часу — і пілуе іголка па тым самым мейсцы. На парозе XXI стагодзьдзе, а на гістарычнай сцэне ўсё тыя самыя персанажы — фашысты, камуністы...

Так-бы хацелася, каб першая перамога фюрэра Мурзы была-б і апошняй!

Пажывём — пабачым...

**Алег Аблажэй**

**Умовы падпіскі**

**Чытачы далёкага замежжа** могуць падпісацца, даслаўшы на рэдакцыю іменны чэк сакратару газэты Паўлу Саўчанку (*Pavel Savcenko*). Кошт падпіскі на год – **$20**. Паведамляем гэтаксама наш валютны рахунак:

*Nr. 91756 AB banko HERMIS Vilniaus filialas, kodas 260101730*

**Жыхары Літвы** могуць падпісацца ў сакратара газэты Паўла Саўчанкі *(т: 61 62 24)* або ў кожным паштовым аддзяленьні Літвы. Падпісны індэкс газэты – 0187. Кошт падпіскі на год – 12 Lt.

**Падпішчыкам у Беларусі** паведамляем адрас у Менску: *Марыя Мурашка, п/с 176, 220123 Менск.* Кошт падпіскі на год – сума ў беларускіх рублях эквівалентная **$ 3**.

**Падпішчыкам у Расеі** паведамляем адрас у Санкт-Пецярбурзе: *191028 Санкт-Петербург, ул. Сикейроса 6-1-364, Ковалюк Евгении Трафимовне* Кошт падпіскі на год – сума ў расейскіх рублях эквівалентная **$ 5**.

**Падпішчыкам у Польшчы** паведамляем адрас у Беластоку: *Wieslaw Choruzy, Porosly 18 «a», 16-006 Barszczewo.* Кошт падпіскі на год – сума ў злотых эквівалентная **$ 8**.

**Ахвяраваньні на газэту:**

| | |
|---|---|
| Сям'я Бартулёў з Амэрыкі | $ 100 |
| Л. Колін з Амэрыкі | $ 100 |
| К. Віньніцкая з Амэрыкі | $ 50 |
| Л. і Э. Норыкі з Амэрыкі | $ 50 |
| Я. Станкевіч зь Літвы | 50 Lt |
| Г. Касьцюкевіч з Амэрыкі | $ 25 |
| М. Швэдзюк з Англіі | 10 анг. фун. |
| К. Пануцэвіч з Амэрыкі | $ 20 |
| К. Акула з Канады | $ 30 |
| В. Касьцюкевіч з Канады | $ 20 |
| М. Латушкін з Амэрыкі | $ 20 |
| І. Ільчук з Амэрыкі | $ 40 |
| Н. Жызьнеўскі з Амэрыкі | $ 30 |
| В. Касьцюкевіч з Канады | $ 20 |
| І. Ільчук з Амэрыкі | $ 40 |
| Н. Жызьнеўскі з Амэрыкі | $ 30 |
| М. Белямук з Амэрыкі | $ 30 |
| В. Рамук з Амэрыкі | $ 50 |

**Меркаваньні рэдакцыі не заўсёды супадаюць з пазыцыяй аўтараў**

**! Адрас для допісаў:**
**<<Рунь>>**
**2001 Vilnius, a/d 1021**
**Lithuania**

**РУНЬ** газэта беларусаў Літвы

заснавальнік
Таварыства беларускай культуры ў Літве
выдаўцы
Віленскі цэнтар грамадзкіх ініцыятываў
*«Дэмакратыя дзеля Беларусі»*
адрас рэдакцыі
*A. Jakšto, 9-106, 2600 Vilnius, Lithuania*
тэлефон: *(+ 370 2) 42 38 02, 61 62 24;*
факс: *(+ 370 2) 42 38 02.*
Алег Мінкін — рэдактар
Павал Саўчанка — сакратар
Алег Аблажэй — мастацкі аддзел
Сяргей Вітушка — аддзел гісторыі
Алесь Трусаў — рэклама й распаўсюджаньне
друк AB «Spauda»
наклад 1000
*ISNN* 1392-7671